ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 25 (2604)
ПЯТНІЦА
23
чэрвеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



З марай аб заўтрашнім хлебе
Волаты ў жыце стаяць...
Сейбіту рупнаму трэба
Шчырае дзякуй сказаць.

Фота Г. КУЛЬБАЦКАГА.

з друку выходзіць нямала мастацкіх твораў неглыбокіх па змесце, невыразных па форме.

На VI з'ездзе пісьменнікаў БССР гаварылася аб тым, што галоўнай умовай далейшай актывізацыі беларускіх літаратараў з'яўляецца тое, у якой ступені кіраўніцтва саюза, пісьменніцкая партыйная арганізацыя авалодаюць ходам творчага працэсу, умацуюць сувязь пісьменнікаў з сённяшнім днём рэспублікі, з народнымі запатрабаваннямі, што ўрокі сапраўднага жыцця трэба браць перш за ўсё на буйнейшых новабудоўлях камунізма, на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, навуковых установах, там, дзе ў ходзе стварэння матэрыяльных каштоўнасцей ідзе грандыёзная работа па выхаванні і фарміраванні камуністычнага характару.

Пасля гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС і VI з'езда беларускіх літаратараў мінула ўжо больш чым год. Што зроблена нашымі работнікамі літаратурнага фронту ў святле новых патрабаванняў!

Нядаўна ў Цэнтральным Камітэце КПБ было разгледжана пытанне аб рабоце партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР. У прынятай пастанове адзначаецца, што вынікам мэтанакіраванай дзейнасці партарганізацыі з'явілася стварэнне ў Саюзе пісьменнікаў абстаноўкі вялікай патрабавальнасці, якая робіць жыватворны ўплыў на творчы працэс. Дзякуючы гэтаму беларускія пісьменнікі стварылі шэраг значных твораў, якія дапамагаюць духоўнаму росту працаўнікоў горада і вёскі і працягваюць лепшыя традыцыі савецкай літаратуры.

Разам з тым, дзейнасць партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў магла быць больш плённай, калі б яна пазбегла ў сваёй рабоце некаторых недахопаў. Усё яшчэ невысокія вынікі работы партарганізацыі і прэзідыума саюза з творчай моладдзю, асабліва ў ідэйным выхаванні і прыцягненні яе да ўдзелу ў грамадскім жыцці. Слаба выкарыстоўваецца вялікі ідэйна-эстэтычны вопыт і веды старэйшага пісьменніцкага пакалення для перадачы яго моладзі.

На абмеркаванне камуністаў рэдка выносяцца актуальныя ідэйна-творчыя праблемы сучаснага этапа развіцця беларускай савецкай літаратуры, далейшага павышэння яе ролі ў вырашэнні задач камуністычнага выхавання працоўных. На старонках літаратурна-мастацкіх часопісаў «Полымя», «Неман» і «Маладосць» нярэдка з'яўляюцца бедныя па думцы і невыразныя па форме творы, якім, аднак, не заўсёды даецца прынцыповая ацэнка ў прэзідыуме Саюза пісьменнікаў і партыйнай арганізацыі.

Задача заключаецца ў тым, каб, зыходзячы з рашэнняў XXIV з'езда КПСС, прыняць неадкладныя меры па павышэнні ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню і прафесійнага майстэрства членаў саюза, па выхаванні ў нашых літаратараў пачуцця высокай адказнасці за сваю працу перад грамадствам, за стварэнне такіх мастацкіх твораў, якія б ярка і праўдзіва адлюстроўвалі савецкую рэчаіснасць, з вялікай мастацкай сілай усталёўвалі ідэі камунізма.

Неабходна выкарыстоўваць усе найбольш дзейсныя формы і метады прыцягнення ўвагі пісьменнікаў да мастацкага асвятлення жыцця рабочага класа і калгаснага сялянства, дабівацца далейшага ўмацавання сувязей пісьменнікаў з жыццём калектываў фабрык, заводаў, калгасаў і саўгасаў, маючы на ўвазе, што глыбокае веданне працэсаў фарміравання камуністычнага характару савецкага чалавека, якія праходзяць у працоўных калектывах, з'яўляецца абавязковай умовай плённай літаратурнай дзейнасці.

Пачэсны абавязак кожнага пісьменніка, кожнага байца літаратурнага фронту—шырока і яскрава адлюстроўваць у літаратурных творах барацьбу савецкага народа за ажыццяўленне рашэнняў XXIV з'езда КПСС, планаў дзевятай пяцігодкі, абавязацельстваў працоўных калектываў па дастойнай сустрэчы 50-годдзя ўтварэння СССР, трыумф ленінскай нацыянальнай палітыкі, брацкую дружбу народаў нашай шматнацыянальнай краіны.

Пісьменнікі-камуністы павінны заўсёды праяўляць авангардную ролю ў ідэйна-творчым жыцці пісьменніцкага калектыву. Партыйнай арганізацыі неабходна ўдасканальваць і паглыбляць выхаваўчую і арганізатарскую работу, рабіць пастаянны і ўсебаковы ўплыў на творчы працэс, настойліва фарміраваць у пісьменнікаў партыйны, класавы падыход да з'яў грамадскага жыцця, непрымірымыя адносіны да буржуазнай ідэалогіі. Важнейшы абавязак—весці актыўнае ідэалагічнае наступленне, да канца выкрываць антынародную сутнасць імперыялізму.

Упэўненым, магутным поступам крочыць па нашай краіне юбілейны, 1972 год. З небывалай сілай разгарнуўся масавы патрыятычны рух працоўных калектываў, усіх савецкіх людзей за паспяховае ажыццяўленне велічных планаў камуністычнага будаўніцтва. Гэта—невычарпальная крыніца для творчага натхнення нашых літаратараў, для стварэння новых, высокаідэйных і высокамастацкіх твораў, дастойных вялікага савецкага народа.

(«Звязда», 18 чэрвеня 1972 г.)

прайшлі ўжо фестывалі самадзейнага мастацтва. Добрай навіной з'явілася свята духавой музыкі, у заключным этапе якога прыняло ўдзел 18 калектываў — 400 аматараў-музыкантаў. Пачаўся агляд-конкурс драматычных калектываў. Кожную нядзелю ў Гомельскім парку адбываюцца справаздачныя канцэрты мастацкай самадзейнасці раёнаў вобласці. Шырока наладжваюцца абменныя канцэрты з

разгорнута спаборніцтва на лепшае абслугоўванне працаўнікоў калгаснай вёскі.

Падводзячы вынікі першых крокаў па падрыхтоўцы да фестывалю самадзейнага мастацтва, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР, Р. Мачулін звярнуў увагу на неабходнасць больш увагі аддаваць падбору рэпертуару самадзейных калектываў, іх выканаўчай культуры і масавасці.

# У МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ БССР

пагранічнымі абласцямі Украіны, Расійскай Федэрацыі. Складзен план сумесных мерапрыемстваў з Чарнігаўскім домам народнай творчасці, які прадугледжвае абменныя канцэрты, выстаўкі мастацкай фатаграфіі, семінар па новых абрадах.

На Віцебшчыне аддаецца вялікая ўвага развіццю самадзейнасці ў кожнай сельскай клубнай установе. З гэтай мэтай у абласным упраўленні культуры абмеркаваны пытанні аб шэфстве музычных школ і вучылішчаў над самадзейнасцю, рабоце народных тэатраў. развіцці аматарскіх калектываў у Докшыцкім раёне, рэпертуары самадзейных калектываў у Аршанскім раёне. Праведзены конкурс на лепшую песню аб Леніне, партыі, Радзіме, дванаццаць семінараў кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці па жанрах, у якіх удзельнічала 360 чалавек. Завяршаецца агляд работы раённых дамоў культуры.

У гэтыя дні ў вобласці праводзяцца святы песні. Традыцыйй сталі, напрыклад, «Браслаўскія зарніцы». Сёлета тут выступіць зводны хор у складзе 1 500 чалавек, а ў Шаркаўшчызне на свяце песні ў хоры прыме ўдзел тысяча спевакоў. Рыхтуецца вялікае традыцыйнае свята дружбы на мяжы трох рэспублік — Латвіі, РСФСР і Беларусі. У вобласці дзевяць аўтаклубаў і сярод іх таксама

## АЎДЫТОРЫЯ— АМАТАРЫ МАСТАЦТВА

Адбылося чарговае пасяджэнне секцыі літаратуры і мастацтва рэспубліканскага савета народных універсітэтаў. Быў заслуханы даклад дырэктара метадычнага кабінета культасветработы Міністэрства культуры БССР А. Сурыновіча аб эфектыўнасці навучальнага працэсу ва універсітэтах культуры Беларусі. Старшыня секцыі намеснік міністра культуры БССР Р. Мачулін расказаў, як прайшло абмеркаванне яе работы ў Маскве на пасяджэнні савета па універсітэтах культуры Міністэрства культуры СССР.

Закончыўся навучальны год у 175 народных універсітэтах культуры і мастацтва і 28 іх філіялах. Каля 35 тысяч слухачоў наведвала іх заняткі. Нарадзіліся універсітэты культуры для работнікаў клубных устаноў, бібліятэк, музеяў і паркаў. Іх мэта — пашырыць кругагляд работнікаў культасветустаноў, узбагаціць іх ведамі ў галіне літаратуры і мастацтва. Такіх універсітэтаў у рэспубліцы працавала 36.

За апошнія два гады была ўпарадкавана сетка універсітэтаў культуры. Замест некалькіх невялікіх універсітэтаў, што працавалі ў горадзе або раёне, стварaліся галаўныя універсітэты з філіяламі ў калгасах і саўгасах, на прадпрыемствах. Напрыклад, у Бабруйску раней было шэсць невялікіх універсітэтаў культуры. У выніку рэарганізацыі створаны адзін гарадскі універсітэт з факультэтамі музычнага і тэатральнага мастацтваў і двума філіяламі — у клубе швейнай фабрыкі імя Дзяржынскага і ў доме культуры фанера-дрэваапрацоўчага камбіната. Гэта ліквідавала непатрэбны дубляж, стварыла ўмовы для правільнай арганізацыі сеткі універсітэтаў і кантролю за навучальным працэсам.

Поспех работы універсітэтаў культуры вызначаюць вучэбна-тэматычныя планы і праграмы. У святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС былі перагледжаны вучэбна-тэматычныя планы па беларускай літаратуры, музыцы, тэатры, кіно, выяўленчым мастацтве, выдадзеныя ў 1968 г.

Рэспубліканскі метадычны кабінет культасветработы абагульняе і распаўсюджвае вопыт лепшых універсітэтаў культуры, клапоціцца пра семінары іх рэктараў. Наладжаны цэнтралізаваны закуп грампласцінак з запісамі твораў рускай і зарубежнай класікі, савецкіх кампазітараў і беларускай музыкі. Рыхтуецца да друку зборнік «Народныя універсітэты культуры», які раскажа пра лепшыя здабыткі ў іх рабоце. Ужо выйшаў у свет каталог грамзапісаў музычных і літаратурна-драматычных твораў, які паможа лепш наладзіць навучальны працэс.

Вялікую дапамогу універсітэтам культуры аказваюць Дзяржаўная бібліятэка БССР імя Леніна, мастацкі музей БССР, Беларуская дзяржаўная філармонія, кансерваторыя, творчыя саюзы і іншыя ўстановы і арганізацыі. Лекцыйнае бюро Белдзяржфілармоніі наладжвала лекцыі-канцэрты ў 75 універсітэтах рэспублікі. Навуковыя супрацоўнікі мастацкага музея, напрыклад, вядуць заняткі на факультэтах выяўленчага мастацтва Сенніцкага сельскага універсітэта культуры Мінскага раёна і пры Доме мастацтваў, ва універсітэтах для работнікаў культасветустаноў Мінска і студэнтаў і выкладчыкаў педінстытута замежных моў.

На пасяджэнні секцыі былі таксама заслуханы інфармацыі аб рабоце Сенніцкага, Баранавіцкага, Рэчыцкага і Столінскага універсітэтаў культуры. Адзначалася, што ў Рэчыцы і Століне работнікі культуры не займаліся сваімі універсітэтамі і таму яны працавалі дрэнна.

Вырашана да новых праграм, якія хутка выйдуць у свет, падрыхтаваць тлумачальную запіску з парадамі, як павысіць ідэйна-тэарэтычны ўзровень заняткаў, асаблівую ўвагу звярнуўшы на актыўныя формы работы — семінары, сустрэчы, канферэнцыі і г. д. Больш увагі аддаваць каардынацыі дзейнасці бібліятэкі імя Леніна і Рэспубліканскага метадычнага кабінета культасветработы, умацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў культуры, пры якіх працуюць універсітэты, дамагацца пастаяннага складу слухачоў.

## ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

*За заслугі ў развіцці беларускага музычнага мастацтва і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў кіраўніка Дзяржаўнага народнага хору Беларускай ССР Паплаўскага Канстанціна Іосіфавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

# МАЛЫ — У МІНСКУ

вак і іншыя, а таксама работнікі мастацка-пастановачнай часткі тэатра і прадстаўнікі адміністрацыі. Гасцінныя гаспадары на чале з дырэктарам завода І. Дзёміным паказалі масквічам свой галоўны канвеер па зборцы славутых МАЗаў. На шматлікія пытанні артыстаў аб рабоце канвеера завода давалі тлумачэнні намеснік начальніка галоўнага зборачнага канвеера М. Сенчанка, сакратар партарганізацыі цэха М. Раўнаполец. Госці маглі сваімі вачыма ўбачыць, як хутка нараджаецца на заводзе новая машына. У перапынку ў памяшканні гэтага ж канвеера адбылася сустрэча артыстаў з рабочымі.

На імправізаваную сцэну, складзеную з двух грузавікоў, падняліся сустрэтыя дружнымі апладысментамі госці з Масквы. Ад імя славутага тэатральнага калектыву дырэктар тэатра Ф. Шапорын перадаў прывітанне і падзяку працоўным беларускай сталіцы і аднаму з перадавых атрадаў рабочага класа Беларусі — аўтазаводцам — за вялікія заслугі перад Радзімай, за баявыя і працоўныя подзвігі. Ён расказаў аб тым, як творчая інтэлігенцыя адзначае свята 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Гаспадары падарылі масквічам прывітальны адрас і эмблему завода. букеты чэрвеньскіх кветак, сувеніры. А потым адбыўся канцэрт, у часе якога парадавалі гледачоў высокім мастацтвам Іван Любезнаў і Яўген Веснік, Міхаіл Навахіжын і Раман Філіпаў (дарэчы, гэтага артыста большасць прысутных адразу пазнала як «свайго»», як выканаўцу многіх значных роляў на беларускай сцэне —ён жа быў купалавец), і іншыя акцёры Малога. Гучалі словы М. Ісакоўскага, М. Шолахава і Я. Еўтушэнкі, мелодыі сучасных кампазітараў, сцэны са спектакляў тэатра.

□

— Вязём у Маскву незабыўнае — Хатынь, яе цішыню, яе званы... Гэта буду «слухаць» у самім сабе і праз многа-многа гадоў...

— Ёсць у вашым горадзе нешта такое... такое... Ну, калі хочаце, рысы гармоніі і хараства. У Мінск хочацца вяртацца. Хоць Свіслач з мялізнамі, але я кінуў у яе капейку. Кажуць, тады абавязкова прыедзеш яшчэ...

— Раней я здымаўся тут у кінафільмах. Спяшаўся. Не паспяваў як след «абжыцца». Цяпер адчуў цяпло мінчан, іх ветлівасць і нейкую, як бы гэта сказаць, па-славянску прывабную сціпласць. Цяпло праменяць часцей за ўсё вочы...

Гэта гаварылі журналістам удзельнікі прэс-канферэнцыі, госці беларускай сталіцы. Тады, калі ўжо афіцыйная частка (а яна была такой шчырай і хвалюючай, што нічога «афіцыйнага» ў ёй не заўважалася!) скончылася і надышла пара развітвацца. Але яшчэ хтосьці затрымлівае Ігара Ільінскага, чуюцца знаёмыя назвы — «Карнавальная ноч», «Волга-Волга», знаёмыя імёны — Усевалад Меерхольд, Любоў Арлова... Яшчэ не-

(Заканчэнне на 15 стар.)



Намеснік начальніка цэха зборкі Мінскага аўтазавода Міхаіл Сенчанка рады расказаць гасцям пра «таямніцы» нараджэння магутных «МАЗаў»

ДЫСКУСІІ

На парадку дня:

ПРАБЛЕМЫ ПАЭЗІІ

# ІСЦІ ЎПОРАВЕНЬ З ВЕКАМ

Марына БАРСТОК

СВОЙ АРТЫКУЛ аб паэзіі пачну з водгуку на выступленне В. Бечыка і А. Вярцінскага. Аўтары закранулі многа важных праблем—аб грамадзянскім абавязку паэзіі, аб прыродзе таленту, аб маральнай забяспечанасці пісьменніцкага слова і інш.

Паэзія, сапраўды, заўсёды з людзьмі, гэта адна з форм дыялогу народа з народам, чалавека з чалавекам. Паэзія заўсёды са сваім часам, хаця і мае багатыя магчымасці рассунуць рамкі свайго часу, выйсці за яго межы. Але ж асноўны клопат «круглага стала», за які запрашае нас штотыднёвік, не ў тым, каб сцвердзіць яшчэ раз агульныя і ўсім вядомыя ісціны, а каб шчыра, на сучасным узроўні пагаварыць аб стане нашай сённяшняй паэзіі, яе здабытках і хібах, аб прычынах, якія тармозяць яе развіццё.

Сённяшняя беларуская паэзія, асабліва многія творы маладых аўтараў, на маю думку, не задавальняюць нашы ўзрослыя патрабаванні, часам мала гавораць сэрцу і розуму чытачоў, не ўзнімаюцца да той вяршыні, якая стала ўжо для нас эстэтычнай нормай. Асобныя такія вершы і паэмы як бы і звязаны са сваім часам, але павярхоўна, знешне. Яны аднастайныя, бедныя на выяўленчыя сродкі, у іх не відаць душэўнага багацця сучаснага чалавека. Маладым паэтам трэба вучыцца, духоўна, творча расці. Дагэтуль жа выходзяць у свет цэлыя зборнікі аднастайных, шэрых, малазмястоўных вершаў. Аб іх пішуць зрэдку і ў «ЛіМе». Помніцца рэцэнзіі на зборнік Хв. Чэрні, на асобныя творы з часопіса «Маладосць». А колькі такіх твораў застаецца па-за ўвагай крытыкі!

Засмучае не толькі аднастайнасць і падобнасць ужо надрукаваных вершаў, але і спосаб іх аўтараў глядзець на рэчы, на людзей,—без здзіўлення, цікаўнасці, прагі адкрыцця. Вось як піша М. Кусянкоў пра маладых дзяўчат (зб. «Без прывалу»):

**...Да лясное хаціны іду,**
**А на ганку —**
**Тры дачкі лясніковы,**
**Кірпатыя трошкі,**
**Між сабою падобныя,**
**Быццам матрошкі.**

І ў другім месцы зборніка гэты ж аўтар усклікае:

**...О, як не любіць нам**
**Шырокую гэту**
**Зямлю,**
**Што ўсіх надзяліла талентам:**
**Паходны маршрут**
**І каханне дала нам.**

Мне здаецца, што тут, акрамя ўсяго, праявілася яшчэ і неразуменне спецыфікі паэзіі, асаблівасцей лірычнага спосабу абагульнення.

Недаацэнка тэорыі, мысліцельнага элементу бачна ў творах і выказваннях некаторых старэйшых нашых паэтаў. Вось, напрыклад, што піша А. Зарыцкі ў аўтабіяграфіі (зборнік «Пяцьдзесят чатыры дарогі»):

«Для мяне паэты заўсёды дзяліліся, груба кажучы, на дзве катэгорыі. Да першай належаць тыя, творчасць якіх абумоўлена непасрэдна самім жыццём, якія нясуць у паэзію жывое народнае слова. Да другой катэгорыі належаць тыя, якія сваё натхненне чэрпаюць у асноўным з прачытаных кніг і карыстаюцца гатовай кніжнай моваю. Творы іх заўсёды напоўнены літаратурнымі рэмінісцэнцыямі. Такія паэты часта добра валодаюць формай, але калі разабрацца па сутнасці, то святло іхняе—святло не іхняе, а чужое».

Тут не ўсё дакладна... У наш час нельга стаць сапраўдным паэтам, не маючы пэўнай кніжнай культуры (бо яе ў той ці іншай ступені маюць усе чытачы), высокага ўзроўню адукаванасці, адкрышталізаванай пры дапамозе філасофскай і эстэтычнай думкі, свайго ўласнага погляду на свет, які таксама здабываецца не толькі адной практыкай. А як жа быць з такімі пісьменнікамі, як Б. Брэхт і Леся Украінка? У іх творчасці сустракаюцца тыя самыя «кніжныя» сюжэты і вобразы, праз якія гэтыя аўтары ўваходзяць у шырокі свет сусветнай літаратуры, распрацоўваючы гэтыя сюжэты з улікам свайго нацыянальнага матэрыялу, сучаснага ім узроўню грамадскай думкі, ідучы ўпоравень са сваім векам. Без свайго ўласнага святла пісьменнік не можа існаваць. Гэта так, але ж бясспрэчна і тое, што ўласны свет пісьменніка збірае, канцэнтруе ў сабе ўсё тое новае, што дае яму грамадства, культура. Якраз сусветная культура і шырокая філасофская думка даюць магчымасць паэту выйсці за рамкі свайго часу, калі гэтыя рамкі становяцца цеснымі, убачыць тое, чаго не бачыць ці не хоча бачыць чалавек, заняты выключна практычнай дзейнасцю, вузкім колам чыста надзённых патрэб. Не шырыню, а вузкасць нашай паэзіі бачу ў тым, што яна рэдка звяртаецца да вобразаў, якія замацаваліся ў сусветнай літаратуры, такіх, як Праметэй, Фаўст, Адам, да антычных і біблейскіх міфаў. Глядзіце, які цікавы і змястоўны верш напісаў У. Караткевіч, выкарыстаўшы біблейскую легенду пра Адама. Адам у вершы У. Караткевіча надзелены вялікай здольнасцю празарліўцы, ён прадбачыць увесь далейшы шлях чалавецтва, ля вытокаў якога стаіць. Больш таго, ён бачыць у сне —кроў Іліяды, попел Плошчы кветак, Рагнеды плач і Хірасімы прах»... Яго апанавалі сумненні:

**Бо лепш у самым чэраве загінуць,**
**Чым падарыць нашчадкам гэткі**
**шлях.**

А потым:

**...Ева падышла і працягнула**
**Далоні сонных і пяшчотных рук.**
**І ён з трывогай, з радасцю няпэўнай**
**І з мужнасцю суровай, як праклён,**
**Прынік да іх у страсці горкай,**
**гнеўнай,**
**Бо ён любіў...**
**Бо добра помніў сон.**

Зварот да падзей і фактаў сусветнай гісторыі, да біяграфіі вядомых грамадскіх і культурных дзеячоў таксама сведчыць аб шырыні кругагляду аўтара, яго ўменні мысліць эпахальна, глядзець на свет цэласна. У гэтай сувязі можна прыгадаць паэму «Агонь і кроў» А. Лойкі, прысвечаную Г. Дзімітрову, вершы А. Вярцінскага «Бурбоны вяртаюцца ў Парыж», «Я фільм глядзеў. Там Спартака распялі» і іншыя.

На ўзроўні сусветнай паэзіі можна пісаць, кіруючыся сваім, нацыянальным матэрыялам. Сапраўды, як казаў К. Чорны, ён усё жыццё можа пісаць пра Цімкавічы і цімкаўчан, але ж ён не проста расказваў нам забаўныя гісторыі пра сваіх аднавяскоўцаў. Ён узнімаў жыццё і справы цімкаўчан да праблем агульначалавечага, сусветнага значэння.

Такімі—рознымі—шляхамі ідуць да вышынь сусветнай паэзіі нашы першакласныя паэты М. Танк і А. Куляшоў. У паэзіі М. Танка бачым і той і другі спосаб паяднання далёкага і блізкага, канкрэтнага і агульнага, нацыянальнага і агульначалавечага; у яго творах міраццa між сабой бунтарная Нарач і залітая сонцам антычная Элада. А ў «Гісторыі вёскі Пількаўшчына» бачым удалую спробу такога паяднання на малой плошчы, у адным вершы. Наколькі бяднейшай была б яго творчасць і вобразная фактура ўсёй нашай паэзіі, каб не было ў ёй вершаў пра багіню перамогі Ніку, пра старажытнага цара Мідаса, які, згодна з легендай, валодаў здольнасцю ператвараць у золата ўсё, да чаго ён дакранаўся. Справа ўся ў тым, што Ніка супастаўляецца з беларускай жанчынай гадоў вайны, якая «плакала ціха ноччу над брацкай магілай» і «памагала салдату раны яго бінтаваць», супастаўляюцца каменныя крылы багіні і цёплыя, да ўсяго прыдатныя рукі беларускі, а ў гэтым ужо вялікі сэнс. І не проста пра цара Мідаса хоча нагадаць нам М. Танк у другім з названых вершаў. Ён разважае аб тым, што ёсць шчасце, а што трагедыя ў нашым зямным існаванні, дзе хлеб надзённы больш патрэбен, чым золата. Ён выказвае сваё разуменне трагедыі творцы, які ўжо не можа жыць непасрэднымі, першаснымі пачуццямі, а ўспрымае звычайныя рэчы—зямлю, траву, ваду, агонь—толькі пераўтворанымі, намаляванымі ці выказанымі ў слове. Бяднеюць ці багацеюць нашы пачуцці ў выніку празмернай цывілізацыі? Шчаслівы ці не шчаслівы мастак, які зрабіў сам сябе прадметам даследавання і аналізу? Такія праблемы ставяцца ў гэтых вершах.

У творчасці А. Куляшова не відаць кніжных і міфалагічных вобразаў, далёкіх асацыяцый. Але творы паэта маюць шырокі эстэтычны гарызонт, яны таксама сучасныя сваім светаадчуваннем. Цікавы і значны адзін з апошніх твораў — паэма «Далёка да акіяна»... Тут гутарка ідзе не толькі пра асобныя пісьменніцкія біяграфіі. Гутарка ідзе пра пэўны гістарычны час, пра 30-я гады, якія выкліканы на суд 70-х гадоў. Для маладых чытачоў тут многае будзе незразумелым, нераскрытым. У гэтым сэнсе «Маналог» таго ж аўтара скажа ім куды больш. Але асноўная ідэя паэмы (я тут згодна з Н. Кіслікам) значная, глыбокая. Яна выводзіцца з нялёгкага гістарыч-

# А ПРАЎДА ПАЧУЦЦЯ?

Алесь МАРЦІНОВІЧ

ГАВОРКА, якая пачалася на старонках штотыднёвіка аб стане нашай паэзіі, своечасовая і больш таго, вельмі ўжо актуальная. Сапраўды, у апошнія гады колькасны склад нашага літаратурнага цэха значна павялічыўся, з'явілася шмат новых імёнаў, а вось калі бліжэй пазнаёмішся з кніжкамі некаторых аўтараў, паэтаў — нават розных пакаленняў — адчуеш, заўважыш, што вельмі ж ужо яны падобныя паміж сабой... Аўтары гавораць аб адным і тым жа, а ў сапраўднасці — ні аб чым. Сентыментальныя разважанні пра блакіт нябёсаў, родную вёску, у якую паэт так ірвецца з горада, але аніяк, бедалага, не можа прамяняць камунальныя паслугі на свежае ранне, падмяняюць тую самую паэзію, якая павінна абуджаць светлыя думкі і пачуцці. Рабіць людзей дабрэйшымі, прыгажэйшымі, лепшымі.

Расул Гамзатаў у адным са сваіх вершаў сказаў, што «поэты ответственны за мир». Тут маецца на ўвазе і адказнасць за спакой у свеце і адказнасць за самую зямлю, за ўсё тое, што акружае нас і чым мы жывём. Але ці заўсёды вытрымлівае наша беларуская паэзія такія высокія патрабаванні? Адказнасць за «мір» — гэта высокая грамадзянскасць і палымяная публіцыстычнасць, гэта тая высокая лінія паэтычнага напружання, якое вытрымае не кожны паэт, а толькі грамадзянін, для якога трывогі часу — ягоныя трывогі, і не проста на паперы, калі часам удала падабраная рыфма замяняе сапраўднае пачуццё, а ў сэрцы, душы.

На жаль, у апошні час усё часцей даводзіцца назіраць супрацьлеглае. У вершы паэт чаго толькі не бярэ на свае плечы, ахоплівае гарачыя падзеі ў розных краінах і розных стагоддзях... Ажно дзіву даешся, як гэта можна аб стольнім гаварыць, але гаварыць суха, без эмоцый, абыякава. Магчыма, крыху рэзкавата сказана, але што праўда, то праўда. Усё гэта часта ў аўтара не набалелае. Гэта—уяўная, часам падробленая публіцыстычнасць, наўмыснае асучасніванне верша.

І такая «хвароба» асабліва ўласціва творчасці літаратурнай моладзі. Пра вайну, смерць, змаганне ўсё часцей пішуць тыя, хто па свайму ўзросту гэтага не мог бачыць, не перажыў. І вельмі добра, што не перажыў. Ды і такое звяртанне пачаткоўцаў да тэмы вайны ўвогуле неблагое. Але важна аўтару добра абдумаць усё гэта, асвоіць эмацыянальна, пазнаёміцца з вопытам іншых, больш сталых калег па пяру, перш чым пісаць аб святым і дарагім для нас.

Тады не з'явяцца вершы накшталт таго, з якім выступіў у калектыўным зборніку «Рунь» М. Губернатараў:

**Помню: чэрвеньскім ранкам**
**росным**
**Вызваленне прынеслі салдаты.**

«Памятае» паэт, які нарадзіўся ў першы пасляваенны год...

Вершы-аднадзёнкі, якія і паэзіяй назавеш не заўсёды, асабліва даволі частыя зноў-такі ў пачаткоўцаў. Вось як, напрыклад, М. Мінчанка выказвае, так сказаць, сваё жыццёвае крэда:

**Мне трэба ў спадчыну вера вялікая**
**У сілу жыцця, яго прамяністасць,**
**Каб вечна ў дарогу трывожную**
**клікала**
**Будзённасць нялёгкая і ўрачыстасць.**

Яно, вядома, куды лягчэй сказаць вось так агульна. Не трэба ні асаблівай думкі, ні вялікага пачуцця, рыфмуй толькі «збітыя» словы: прамяністасць — урачыстасць, вялікая—клікала. Праўда, ніхто і нікому не забараняе практыкавацца ў вершаскладанні. Тут, як кажуць, што хачу, тое і раблю. Дзіўна толькі тое, што гэтыя слабыя вершы выносяцца на суд чытача. Праўда, некаторыя падобныя паэты бяруць у аснову рыфмы словы больш «значныя», як Б. Ганкін у зборніку «Восхождение». Атрымліваецца досыць «цікава»: «наступленье», «преодоленье», «осторожность», «невозможность». І ўсё ў адной страфе, пры тым, гэтыя радкі і адкрываюць зборнік ..

У апошні час шмат і слушна гаворыцца аб інфляцыі паэтычнага слова, аб дробнатэм'і, страце грамадзянскасці і публіцыстычнасці. Гэтыя пытанні закранаюць у дыялогу В. Бечык і А. Вярцінскі. Але хочацца, калі пачалі з гэтага, пагаварыць і пра іншую крайнасць: пра голую рытарычнасць, пра паэтычную позу, якая вельмі часта нагадвае не што іншае, як скаканне на роўным месцы. Губляецца праўда пачуцця, а з ёй і праўда жыцця.

Дрэва з хворымі карэннямі ніколі не вырасце. Яно або завяне адразу, і вятры яго зламаюць, альбо прастаіць сухастоем. Ні ў першым, ні ў другім выпадку карысці ад яго аніякай. Аналагічная сітуацыя і ў паэзіі. Яе дрэва жывіцца сокамі з карэнняў. А гэта—новыя пакаленні, якія прыходзяць у літаратуру, якія трэба выхоўваць, расціць.

Прыведзеныя вышэй вытрымкі са зборнікаў серыі «Першая кніга паэта». Я ўважліва прачытаў шмат якія зборнікі і адчуў, што многія вершы розных аўтараў нагадваюць сабой блізнятаў. Не толькі тэмы аднолькавыя, але і слабыя месцы. Голая рытарычнасць і поўная адсутнасць таго, што завецца жыццёвай праўдай.

Лётанне ў воблаках, адыход ад надзённых пытанняў і праблем жыцця—гэта тая хвароба, якая вельмі адчувальная ва ўсёй прыгаданай паэтычнай серыі. Ёй спадарожнічае і цьмянасць аўтарскай пазіцыі, невыразнасць выказванняў. І тут прыкладаў больш, чым патрэбна.

Н. Тулупава (зборнік «Станцыя надзей») піша:

**На плошчы**
**вечны гарыць агонь...**
**Стаіць жанчына каля яго.**
**Лятаюць ластаўкі ўгары,**
**Яе ты ластаўкаю зваў.**

Мала таго, што верш зусім слабы. У ім аўтар паказвае сябе няўважлівай. Вядома, што ластаўкі не любяць шумных месцаў, і ў вялікім горадзе іх не часта ўбачыш.

Ул. Фамін (зборнік «Падслухаў сэрца») наогул ідзе ўразрэз з усімі правіламі. Ён бачыць, як хлапчанё ў недазволеным месцы пераходзіць праспект. Паставы супынілі, вядома, усе машыны. Паэт не хавае свайго захаплення: «І ўсе, нібы перад парадам, застылі: крочыць чалавек!». Не рада-

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

# У ПУШКІНА

**Штогод, на пачатку лета, у слаўных рускіх сёлах Міхайлаўскае і Болдзіна, з якімі непарыўна звязана імя вялікага Пушкіна, праводзіцца ў гонар дня яго нараджэння свята паэзіі. Стаў ужо добрай традыцыяй удзел у гэтым свяце беларускіх пісьменнікаў. Сёлета ва ўрачыстасцях, якія праходзілі ў Міхайлаўскім, прымаў удзел Васіль Зуёнак, у Болдзіна ездзілі Анатоль Вярцінскі і Пятрусь Макаль. А. Вярцінскі расказвае аб сваіх болдзінскіх уражаннях.**

БОЛДЗІНСКАЯ ВОСЕНЬ. «Пора литературных трудов» Болдзіна. «Обитель дальняя трудов и чистых нег».

Сапраўды дальняя, далёкая. Для Пушкіна — у прасторы. Для нас — і ў часе.

За дальнасцю і за даўнасцю яно, гэтае сяло, было — для мяне асабіста, у прыватнасці — нечым амаль нерэальным, абстракцыяй. Так, каму невядома, што лёс закінуў Пушкіна ў яго радавы маёнтак Болдзіна, што тут ён марыў аб сваім шлюбе з юнай прыгажуняй Наталляй Ганчаровай, ірваўся да яе, але яго трымаў карантынны палон, і паэт—няма ліха без дабра—вымушаны быў пісаць і стварыў за тры месяцы шмат выдатных твораў, якія ўвайшлі ў залаты фонд рускай і ўсёй сусветнай літаратуры... Каму гэта невядома? Але гэта разам са школьным урокам адыходзіць у мінулае і робіцца далёкім, як паданне. І калі ты верыш у Міхайлаўскае і Ясную Паляну, то вера твая ў Болдзіна толькі на гэтым паданні і трымаецца. Дзе ты — Болдзіна? У якім кутку неабдымнай зямлі рускай? Якое ты, калі ты ўсё ж існуеш у сапраўднасці?

Болдзіна адгукаецца, Болдзіна дае пра сябе знаць. Самым сучасным, самым рэальным, самым звычайным спосабам. З Болдзінскага музея-запаведніка А. С. Пушкіна (жыве Болдзіна, ёсць такі музей!) прыходзіць у Саюз пісьменнікаў запрашэнне прыняць удзел у юбілейных урачыстасцях. Пушкінскае Болдзіна запрашае ў госці! І мы з Петрусём Макалём выпраўляемся ў шлях.

«Если ехать вам случится...» Ляцім да Масквы самалётам, адтуль, другім самалётам, да Горкага. А з Горкага дабіраемся да сяла Вялікае Болдзіна (у адрозненне ад другой назвы — Малае Болдзіна). Недзе на паўдарозе пачынаеш памалу адчуваць не зусім звычайнае трывожна-шчымлівае хваляванне — хваляванне паломніка. Яно звязана ў падсвядомасці з адчуваннем, што ты пераадольваеш не толькі прастору, але і рухаешся ў часе. Пачынае наогул змяшчацца ўяўленне аб часе. Упершыню я перажыў такое адчуванне, калі наведаў Жалудок у пошуках слядоў Валерыя Урублеўскага. Цяпер яно зноў было ў душы. І яно, па меры набліжэння, усё мацней і мацней забірала сэрца. І ўзмацнялася яшчэ тым, што я ўзяў з сабой у дарогу томік пісем Пушкіна, і мы іх перачытвалі... «Я ад'язджаю ў Ніжні, не ведаючы, што мяне чакае ў будучым... Восень падыходзіць. Гэта любімы мой час — здароўе маё звычайна мацнее — пара маіх літаратурных турбот — а я павінен клапаціцца пра пасаг ды пра вяселле, якое згуляем бог ведае калі... Еду ў вёску, бог ведае ці буду там мецьчас займацца і душэўны спакой, без якога нічога не зробіш, акрамя эпіграм на Качаноўскага... Мая дарагая, мая мілая Наталля Мікалаеўна, я ля вашых ног, каб падзякаваць вам і прасіць даравання за прычыненыя вам турботы... Даношу табе, майму уладару, што сёлетняя восень была дзетароднай, і што калі твой пакорны васал не здохне ад сарацынскага паморку, халерай званага і занесенага нам крыжовымі воінамі, гэта значыць бурлакамі, то ў замку тваім, «Литературной газете», песні трубадураў не змоўкнуць круглы год... Што за цуд тутэйшая вёска! Уяві: стэп ды стэп; суседзяў ні душы; ездзі вярхом колькі табе хочацца, пішы дома колькі ўздумаецца, ніхто не перашкодзіць... Я жыву ў вёсцы як на востраве, акружаны каранцінам...»

Гулі маторы, пагойдваўся самалёт, транспарт быў самы што ні ёсць сучасны, але ў той час гучалі словы Пушкіна, за імі чуўся яго такі натуральны — то ўзрушаны, то пяшчотны, то іранічны, то жартаўлівы — голас, мы ляцелі да яго ў госці, і сцены часу бурыліся, падалі... Знаёмае паломнікам адчуванне.

...«Стэп ды стэп...» Як толькі мы, прыехаўшы, агледзеліся, мы адразу яго ўбачылі, убачылі вакол раздольную раўніну, з невялікімі ўзгоркамі і пералескамі. Тут жыў, тут быў, тут тварыў Пушкін... Шмат змянілася з тых часоў, шмат вады сплыло ў мясцовай рачулцы Азанцы, на якой стаіць сяло Болдзіна, але засталося гэтае зялёнае поле, гэтыя ўзгоркі, гэтыя гаі, гэтая дарога, па якой паэт любіў ездзіць вярхом на кані. І гэты вось драўляны дом, да ганку якога падкаціў са званочкам шмат год назад упершыню «малады пан» і дзе зараз знаходзіцца музей-запаведнік. І гэты парк, гэты сад, гэтыя зеленаватыя ад бросні сажалкі, гэтыя грачыныя гнёзды і несціханы грачыны грай. І гэтая стапяцідзесяцігадовая, з засохлай вершалінай, лісцвенніца, якую, паводле падання, прывёз з Урала і пасадзіў сам Пушкін. І гэтая агромістая, з яўнымі адзнакамі свайго ўзросту вярба, на рахунку якой каля двухсот год. У гэтым краі прырода шчодрая на час, на даўгалецце. І не толькі ў дачыненні да дрэваў. Больш за сто год жыў і бярог памяць пра паэта яго сучаснік болдзінскі селянін Міхей Сівохін. Столькі ж жыла другая яго сучасніца, прыгажуня, дачка мясцовага пчаляра Фяўронння Вілянава, якая пранесла праз гады і перадала патомкам сказаныя Пушкіным перад ад'ездам словы: «Якія вы мае падданыя,— я ваш падданы». Шматгадовым захавальнікам болдзінскай старыны быў унук пушкінскага пісара Іван Кірэеў... Наогул тут, у Болдзіне, паявае, як здаровым стэпавым прасторам, доўгажывучасцю. Дзякуючы супрацоўнікам музея-запаведніка мы сустрэліся з народным хорам сяла Болдзіна. У гэтым хоры спяваюць жанчыны, адной з якіх, самай маладой, пяцьдзесят з нечым год, а астатнім ад сямідзесяці і больш. Самай старэйшай восемдзесят чатыры гады. Яна сядзела за сталом насупраць мяне (сустрэча адбывалася ў хаце адной з удзельніц хору, з застоллем, з самаварам). Ёй падлівалі час ад часу, паміж песнямі, гарэлкі, яна выпівала, выцірала рот суханькай старэчай жменькай і пела зноў — моцна, звонка, залівіста.

Па дарозе ў Болдзіна змяшчэнне ў часе было ілюзорным. Тут жа сувязь часоў была па дзіва адчувальнай, рэальна ўвасобленай. Проста не верылася, што вось так жыве ў сяле памяць пра паэта. Памяць не літаратурна-кніжная, не музейная, а жывая, чалавечая, сапраўды народная, памяць, якая ашчадна перадаецца з пакалення ў пакаленне. Хор спяваў цэлы вечар песні. Акрамя іншых (якое выкананне!) гучалі і тыя, якія ўжо спяваліся ў часы Пушкіна і запісваліся ім («Цешчанька», «Белая бярозанька»), рамансы на словы паэта. Песні перапыняліся размовай, расказамі, успамінамі. Пра Пушкіна гаварылі, як пра чалавека, які нядаўна быў у гэтай хаце, як звычайна на сяле гавораць пра блізкага ўсім чалавека, які адсутнічае, але памяць пра якога трывала жыве ў сэрцы. Такая сапраўды народная любоў да свайго паэта не магла не хваляваць, не маглі не ўспомніцца зноў яго прарочаныя словы пра сцежку, якая будзе весці да яго помніка і якую ён трапна назваў «народнай». У дужках прыгадаю, што, як гэта і заўсёды бывае ў жыцці, не абыходзіцца тут і без камічных момантаў. Артыст аднаго з горкаўскіх тэатраў А. Палеес, які выконвае ў некаторых фільмах ролю Пушкіна (ён знешне вельмі падобны на паэта) расказваў нам: «Здымалі фільм «І зноў восень...». Я ехаў вярхом на кані, выглянула з хаты бабулька, убачыла мяне, пляснула рукамі: «Батюшки, барин воскрес!»

Беларускія пісьменнікі былі на свяце ў Болдзіне ўпершыню, мы былі самымі далёкімі гасцямі, і нас вельмі цёпла прымалі. На вечары паэзіі, які адбыўся ў першы дзень прыезду ў раённым Доме культуры (Болдзіна зараз раённы цэнтр) мы чыталі свае пераклады з Пушкіна. А потым нам было прыемна пачуць верш горкаўскага паэта Юрыя Адрыянава, прысвечаны Беларусі:

**Как молчат твои чащи вещие,**
**Как бездонна рассветов стынь!**
**Душу жжет твою углем тлеющим**
**Деревенька лесная Хатынь.**

Хвалюючае пачуццё блізкасці часоў і людзей перажывалі мы асабліва, калі слухалі выступленне другога горкаўскага паэта, па паходжанню беларуса Генадзя Бядняева, які чытаў пранікнёныя радкі аб роднай Віцебшчыне.

На наступны дзень свята адбылося народнае гулянне ў маляўнічым гаі Лучыннік (так назваў гэта месца, паводле падання, сам Пушкін). І тут, на ўлонні чароўнай прыроды, апетай вялікім паэтам, мы мелі шчаслівую магчымасць зведаць чалавечы давер і добразычлівасць. Да нас падыходзілі людзі — адны таму, што іх жыццё ў свой час было звязана з беларускай зямлёй, другія проста так, каб сказаць добрыя словы, запрасіць у госці. Запомнілася тая зацікаўленасць, з якою гутарылі з намі аб сёняшняй літаратуры, аб яе дарозе да сэрца чытача педагог А. Кальякова, інжынер Л. Кастраміна...

Прыемна было бачыць і той энтузіязм, тую любоў, з якімі імкнуцца ахоўваць і памнажаць памяць паэта, павялічваць кола сяброў Болдзінскага музея-запаведніка яго дырэктар Ю. Левіна, супрацоўнікі Л. Часнова, Л. Малышкіна. Мы перадалі ім падарункі нашай пісьменніцкай бібліятэкі — творы Пушкіна на беларускай мове, кнігі Купалы і Коласа, аўтографы уласных перакладаў пушкінскіх вершаў. Мы выказалі ім сваю ўдзячнасць за запрашэнне, за магчымасць адкрыць для сябе нанова Болдзіна — знакаміты куток рускай зямлі, у якім жыве светлы вобраз паэта-гуманіста.

НА ЗДЫМАЧНЫХ ПЛЯЦОУКАХ

# ГАЛОЎНЫЯ ГЕРОІ—ГОРАДАБУДАЎНІКІ

На студыі «Беларусьфільм» пачаліся здымкі мастацкай кінакарціны «Вуліца без канца», прысвечанай нашым сучаснікам, тым самым, якія легенду робяць быллю, героям-будаўнікам, што за некалькі гадоў узвялі Наваполацк і іншыя маладыя гарады-прыгажуны ў нашай рэспубліцы. У цэнтры фільма лёс членаў будаўнічай брыгады Сяргея Русанава і яго дачкі Вольгі. Самога брыгадзіра ўжо няма ў жывых. Калі лопнуў трос на часовым мосце, ён першы кінуўся ў раз'юшаную раку мацаваць пантоны, ратаваць доўгачаканыя будаўнічыя грузы і загінуў. Але памяць аб ім жыве. Дзецям расказваюць пра яго на піянерскіх зборах, вуліцу назвалі яго імем...

Ставіць фільм лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Ігар Дабралюбаў, кінааператар — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Рыгор Масальскі, мастак — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Уладзімір Дзяменцьеў. Нас чакае новая сустрэча на экране з народнай артысткай СССР Аляксандрай Клімавай, заслужанымі артыстамі РСФСР Аленай Казяльковай, Юрыем Гарабцом, заслужаным артыстам БССР Барысам Кудраўцавым. У ролі Вольгі здымаецца вучаніца 2-й мінскай школы Ірына Бразгоўка (мы памятаем яе па фільмах «Іду шукаць» і «Іван Макаравіч»). У масавых сцэнах прымаюць удзел жыхары Наваполацка і Мінска.

— Сучасная тэма,—гаворыць рэжысёр Ігар Дабралюбаў,—мяне цікавіла заўжды. Разумею, што тэма гэтая вельмі адказная. Каб бліжэй пазнаёміцца з будучымі героямі нашага фільма я разам з кінадраматургамі Іосіфам Герасімавым, Аляксеем Ляонцьевым прыехаў у Наваполацк. Мы доўга жылі ў гэтым горадзе, сустракаліся з архітэктарамі і будаўнікамі, студэнтамі і нафтавікамі, з партыйнымі і камсамольскімі работнікамі. Магнітафонныя стужкі, на якой запісаны гутаркі з гэтымі людзьмі памогуць нам у далейшай рабоце над фільмам. Наваполацк прыцягнуў увагу здымачнай групы менавіта таму, што гэта горад новага тыпу, сучаснай архітэктуры, горад навукі і працы... Гэта інтэрнацыянальны горад. Пасланцы амаль усіх рэспублік нашай краіны лічаць яго сваёй другой радзімай. Першыя будаўнікі Наваполацка сталі ўжо высокакваліфікаванымі хімікамі і нафтавікамі. Ёсць у горадзе абеліск першай палатцы. І ў фільме вы яго ўбачыце — каля абеліска ў строгім, маўклівым страі будуць праходзіць будучыя салдаты, хлопцы, якія ідуць служыць у армію. Сцэны ў кабінеце героя фільма, галоўнага інжынера Кавалеўскага будуць здымацца ў кабінеце галоўнага інжынера Наваполацкага хімкамбіната. Гэтак жа будуць здымацца многія іншыя эпізоды. Нам не трэба было выдумваць сваіх герояў. Гарком партыі, гарсавет, камсамольцы Наваполацка ахвотна дапамагаюць нам ствараць пра іх фільм.

**І. РЭЗНІК.**



Здымаецца адзін з першых кадраў мастацкага фільма «Вуліца без канца». Каля кінакамеры рэжысёр Ігар Дабралюбаў і аператар Рыгор Масальскі.

Фота Г. СТЭФАНСКАГА.

ПРАВЕРЦЕ ЦІ ПАДОЎЖАНА Ў ВАС ПАДПІСКА НА ШТОТЫДНЁВІК

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

НА ДРУГУЮ ПАЛОВУ 1972 ГОДА

ПЕРШ ЗА ЎСЁ пра героя п'есы і спектакля хочацца сказаць—сучаснік. І такое вызначэнне характару і паводзін металурга па прызванні і арганізатара вытворчасці па цяперашняй яго пасадзе Аляксея Чашкова будзе правільным. Ён чалавек сённяшняга дня. Такім, якім яго паказвае драматург, не былі ні Гай у «Маім другу» М. Пагодзіна, ні Сцяпанаў у «Дырэктары» С. Алёшына. А яны таксама, здаецца, вырашалі тыя ж праблемы, і таксама «наводзілі» парадак у буйных вытворчых калектывах, і ім выпадала адначасова паглыбляцца ў маральныя канфлікты. Больш таго, і Аляксей Чашкоў, па прыкладзе сваіх папярэднікаў у драматургіі і на тэатры, часцей за ўсё выглядае начальнікам валявым, напорыстым, непахісным. Калісьці на такіх кіраўнікоў і ў прамысловасці, і ў сельскай гаспадарцы ўскладаліся ўсе надзеі — яны «вывезуць», «выцягнуць» і ўсіх расставяць па сваіх месцах.

# ЧАЛАВЕКУ РАШАЦЬ НАДЗЁННАЕ

*«ЧАЛАВЕК З БОКУ» І. ДВАРЭЦКАГА Ў РУСКІМ ТЭАТРЫ БССР імя М. ГОРКАГА*



Народны артыст БССР Р. Янкоўскі — Чашкоў.

Але на гэтым падабенства Аляксея Чашкова да знаёмых нам аблічаў і сцэнічных партрэтаў і канчаецца. Калі чытаеш п'есу, здагадваешся, што драматург паставіў перад тэатрамі складаную задачу. Рэжысура ж і выканаўцы могуць, як кажуць, спыніцца на знешнім пласце адлюстраваных у п'есе падзей і носьбітаў пэўных устойлівых рысаў — зацяты бюракрат, палахлівы перастрахоўшчык, кар'ерыст, наватар і г. д. А тут жыццё «схоплена» на новым узроўні. Тут дзейнічае дух і патрабаванні 70-х гадоў, калі не ад аднаго, хай сабе і вельмі таленавітага і валявога, кіраўніка залежыць поспех справы, калі за яе адказвае калектыў. І сам Аляксей Чашкоў, калі да яго прыгледзецца ўважліва, — фігура неадназначная.

Што паказвае Рускі тэатр БССР імя М. Горкага ў спектаклі? Ці здолеў ён па-творчы «прабіцца» праз знешні пласт даволі знаёмых сітуацый і персанажаў да таго новага, што дае сваёй п'есай І. Дварэцкі? Між іншым, заўважым, што ў Мінску «Чалавека з боку» паставілі тады, калі п'еса ўжо ставіцца ў кожным трэцім тэатры краіны і мае розныя рэжысёрска-пастановачныя рэдакцыі, аб якіх выказалася крытыка. Крытыка не аднадушная ў сваіх сімпатыях, скажам, да таго, што раскрывае ў Маскве рэжысёр А. Эфрас на сцэне тэатра на Малой Броннай, і што падкрэслівае рэжысёр І. Уладзіміраў у Ленінградзе ў тэатры імя Ленсавета.

Адказ на пытанне — што паказваюць мінчане? — ёсць ужо ў тым факце, што роля Аляксея Чашкова ў нас даручана артысту Р. Янкоўскаму. Абаяльнаму, імпазантнаму, як бы народжанаму іграць «герояў». Як і ў п'есе, гэты Аляксей Чашкоў супрацьпастаўлены асяроддзю людзей, у прыватным жыцці добрых і мілых, якія пераносяць пэўную сяброўскую сентыментальнасць і ў службовыя ўзаемаадносіны. Для іх даражэй за ўсё тое, што калектыў яны дружны, што завод мае свае традыцыі, умее «выдаваць» план, хай сабе часам і не зусім сумленнымі вытворчымі паказчыкамі.

Герой Р. Янкоўскага ўсімі сваімі паводзінамі, рашэннямі і загадамі гаворыць ім рашучае — не! Не, давайце спачатку станем сумленнымі ў сваіх грамадскіх і службовых абавязках, давайце спачатку наладзім працу так, як гэтага вымагае час навукова-тэхнічнага ўздыму, а пасля ўжо мы можам, ведаючы, хто чаго варты, палюбіць адзін аднаго. Гэта перададзена артыстам паслядоўна і па-акцёрску з вялікай унутранай пераканаласцю ў адзіна справядлівым і пасапраўднаму цвярозым шляху, якім ідзе да мэты Аляксей Чашкоў, інжынер новай фармацыі, дасведчаны знаўца сучаснага стану тэхнікі. І глядач адчувае ў ім цэльнасць натуры, калі, скажам, Р. Янкоўскі амаль механічна, але і сур'ёзна пытаецца, чаму тут, на гэтым прадпрыемстве, у начальнікаў, такія старыя сакратаршы. «У нас іх каля сотні і ўсе ў гадах», — чуе ён у адказ. «А стэнаграфаваць яны хоць умеюць?» — гэта ўжо зусім дзелавое пытанне. «Бач, чаго захацеў!» — гавораць Чашкову. І мы здагадваемся, што, шануючы сталасць заслужаных пенсіянераў, ён усё ж даб'ецца, каб у яго былі сакратаркі маладыя, каб яны ўмелі стэнаграфаваць, разумеючы тое, што запісваюць. «Памяць лепшая... Маладую навучыць лягчэй...» — кажа ён, не звяртаючы ўвагу на з'едлівы дасціп субяседніка: «Гледзячы чаму...»

Чашкоў Р. Янкоўскага спакойна слухае словы гаспадара вытворчасці (артысты І. Камароў і Ю. Сідараў па-рознаму, але з аднолькавым націскам на гэты «гаспадарскі» і акасцянелы ў звычцы камандаваць з дапамогай валявых прыёмаў характар іграюць ролю Плужына): «Упершыню Нераж давярае такую пасаду трыццацігадоваму чалавеку, ды яшчэ з першага кроку... Пяцёра намеснікаў будзе ў вас, дзвесце чалавек інжынерна-тэхнічнага персанала...» Яго такім размахам не здзівіш. І тут як бы «чытаецца» біяграфія маладога спецыяліста: яго вучылі ў інстытуце, рыхтавалі для справы сапраўднай, і, даючы згоду ехаць у Нераж, Аляксей Георгіевіч ведаў, што яго чакае. Дасведчаны спецыяліст, такі Чашкоў на авантуры не пойдзе. Гэта адчуваеш у напружаным паядынку, які іграюць Р. Янкоўскі і І. Камароў з Ю. Сідаравым па чарзе, у першым знаёмстве Чашкова з Плужыным.



Артыст Ю. Ступакоў — Рабінін.

Плужын прывык да таго, што яго падначаленыя, якіх ён па-свойму шануе і нават любіць (ёсць жа такая прымаўка — зразумець азначае даравацъ, а даравацъ азначае палюбіць), не могуць без авантур. І выкананне планаў яго калектывам раней часта было якраз авантурай, калі за лічбамі «агульнага» падліку хавалася і звычайная хлусня.

Ды толькі таго ж Аляксея Чашкова не сыграеш, як ты яго сам разумееш, па-за межамі рэжысёрскай інтэрпрэтацыі. Цяжка сказаць, хто тут быў больш уплывовы, — пастаноўшчык спектакля Ф. Шэйн ці сам Р. Янкоўскі, але Чашкоў на мінскай сцэне выглядае аднастайным. Ён усё ведае загадзя. Добра сыграўшы чалавека, апантанага прагрэсіўнай ідэяй перабудовы парадку на Неражскім прадпрыемстве, добраахвотна асуджанага на пэўную (у межах сцэнічнай дзеі на кароткі тэрмін) адзіноту, артыст Р. Янкоўскі на працягу амаль усяго спектакля іграе толькі гэта. Мабыць, і рэжысёр, спадзеючыся на сцэнічную эфектнасць акцёра, — ці то наўмысна, ці то выпадкова, — пакінуў у характары Чашкова штучную сухаватасць, абмежаваўся прасталінейным вырашэннем вобраза.

Калі чытаеш п'есу, адчуваеш у Чашкове то журботную насцярожанасць, то прасветлены сум, то зацікаўленасць, то недаўменне. Ён жа для нас, гледачоў, сапраўды чалавечны амаль у кожнай праяве свайго аблічча, хоць для астатніх дзейных асоб часам і выглядае прасталінейным. У спектаклі ўсё наадварот: жанчыны здагадваюцца, што Чашкоў не такі пахмурны, што ён бывае замкнёным у сабе, але сэрца ў яго добрае, а мужчыны вераць у мабільнасць гэтай натуры. На сцэне Р. Янкоўскі таксама быццам бы «зацісնуты» ў зададзены характар. «Зацісնуты», калі яму трэба быць «сабраным», засяроджаным на нейкай галоўнай для героя ў дадзены момант думцы-настроі.

Прыклады? Калі ласка. Сапернік і па службе, і ў кахачні Манагараў (артыст В. Шур) гаворыць Чашкову: «Мне не падабаецца ваш настрой...» А перамен у настроі Чашкова — Янкоўскага ніякіх не было: ён увесь час у адным настроі. Глядач павінен верыць толькі словам Манагарава аб тым, што ў героя спектакля можа мяняцца духоўны стан.

І яшчэ. Абедзве выканаўцы ролі Ніны Шчогалевай, жанчыны, якая спачатку згаджаецца быць побач з Чашковым, «пакуль яму гэта будзе патрэбным», а потым сапраўды закаханай у гэтага знешне сухаватага, але для яе «ідэальнага» мужчыны (кампраміс з Манагаравым быў і для яе ўрокам на ўсё жыццё), іграюць арыгінальна. Калі Л. Былінская ўспрымаецца як натура на дзіва шчырая, якая кожны рух сваёй душы можа выказаць адным словам або пытаннем-перапытаннем, і яе Шчогалева—жанчына рацыяналістычная, часам на мяжы інтэлектуальнага скепсісу (яна дазваляе сабе і самаіронію), то Б. Масумян хутчэй за ўсё даражыць у сваёй Шчогалевай яе запаветным чаканнем сустрэчы, якая даецца адзін раз у жыцці і дзеля якой гераіня гатова і на дзёрзкасць, і на пяшчоту.

Унутраны рух душэўных перажыванняў Шчогалевай (і Л. Былінскай, і Б. Масумян), мабыць, адцяняюць пэўную аднапланавасць Чашкова. З жанчынамі гэты чалавек мог бы і не «трымацца» адной чы абранай лініі паводзін. А так словы героя аб тым, што Ніна Шчогалева, якая будзе яго жонкай, «раўнапраўя чакаць не павінна», гучаць не жартам, а пагрозай: маўляў, я застануся Чашковым і ў піжаме... Ці не спрашчаецца такім чынам вобраз? Калі Р. Янкоўскі разам з Ф. Шэйнам перачыталі б п'есу не як гісторыю «валявога кіраўніка», а як сцэнічны расказ пра маладога спецыяліста 1940 года нараджэння, скончыўшага Баўманскае вучылішча ў канцы 60-х гадоў, тады, мабыць, яны адмовіліся б ад некаторых адкрыта «лабавых» і нават плакатных рашэнняў, часткова апраўданых для таго ж «Майго друга» М. Пагодзіна...



Народны артыст СССР П. Малчанаў — Граматкін.

Ды толькі драматург зрабіў яшчэ адну «пастку» для тэатраў. Ён побач з адкрыта зацятым кар'ерыстам Плужыным паставіў... хама. Так, ён і сам сябе называе «хамам», гэты намеснік дырэктара Глеб Рабінін. Здаецца, у такога Чашкова, якім ён атрымаўся ў Р. Янкоўскага, з'явіўся партнёр — і антыпод, і калега-саюзнік. Вось гэтага, дыялектычнага, па сутнасці, «раздваення» ў вобразе Рабініна, якога іграе артыст Ю. Ступакоў, і не адчуваеш. Спачатку ён — і гэта па-акцёрску перадаецца вельмі сакавіта, стрымана і ўнутрана насычана, — толькі працаўнік наогул «маладога» і наогул «наватарскага» Чашкова з яго жаданнем працаваць, увогуле, «па-новаму». Гэткая манументальная фігура «хама», якога, здаецца, і не паважаць нельга, у прыватнасці, у Неражы. Але...

Гэта самае вялікае здзіўленне, якое выклікае спектакль Рускага тэатра імя М. Горкага. Раптам (менавіта—раптам!) той жа самы Глеб Рабінін, для сябе застаючыся рэзкім, каб захаваць аўтахарактарыстыку «хама», робіць паварот на 180 градусаў, — ужо выступае цалкам аднадумцам Чашкова. Асабліва ў апошніх сцэнах, тады, калі мяняецца яго службовае становішча: з намесніка Плужына ён становіцца сакратаром партыйнай арганізацыі прадпрыемства. Лагічна гэта яшчэ зразумець можна — дзелавы, знаўца сваёй справы, ён на грамадскай пасадзе перастане быць «хамам» і выйдзе з-пад «улады» Плужына. Дык жа такому Рабініну не было чаго чакаць «з'яўлення» Чашкова! Прынамсі Ю. Ступакоў іграе яго чалавекам, які і раней, без «дапамогі» ў выглядзе трыццацігадовага інжынера, мог і павінен быў выступіць супраць «плужыншчыны».

Мо таму ў другой частцы спектакля Ю. Ступакоў не так «жыве ў вобразе», як рацыянальна будуе пакручасты ўнутраны шлях свайго героя, прымушае сябе амаль нарачыта падкрэсліваць «святло» і «цені», націскаючы на «святло». А «хамства» застаецца, бо так напісана роля. І акцёр не ведае, як пагадзіць адно з другім, як апраўдаць рэкамендацыю «такога» Рабініна на пасаду сакратара партарганізацыі.

Нашы прэтэнзіі адрасуюцца акцёру. А мог бы рэжысёр у дадзеным выпадку памагчы яму стварыць больш акрэслены і апраўданы ў кожным сцэнічным штрыху вобраз Рабініна? Наўрад ці такое магчыма. Роля і напісана, што называецца, з падводнымі рыфамі. Мабыць, усё ж Рабінін — ніякі не «хам», гэта было толькі маскай сумленнага чалавека, зручнай да часу для яго ва ўмовах паказанага І. Дварэцкім Неража. Калі б з гэтага зыходзіў Ф. Шэйн, то і Ю. Ступакоў іграў бы «нешта» не тое. Але гэтага не здарылася.

І яшчэ адзін не зусім абгрунтаваны рэжысурай спектакля «адыход» ад твора І. Дварэцкага. Драматург настойліва сцвярджае думку аб тым, што толькі ў сферы сапраўды рэальных спраў (з улікам і навуковым аналізам рэальных магчымасцей-рэзерваў і вытворчасці, і людзей) такія, як Чашкоў, раскрываюць свае ідэйна-маральныя якасці. Для такіх, як ён, сябрамі-аднадумцамі могуць быць бязлітасна сумленныя супрацоўнікі-саслужыўцы. У Неражы ўсё яшчэ толькі набліжаецца да такой атмасферы (Плужын застаецца ў крэсле і мае магчымасць спісваць за кошт дзяржавы выдаткі!). А на сцэне рэжысёр ставіць фінал як ідылічны (хэпі энд) вынік валявога ўмяшальніцтва ў мясцовыя справы «чалавека з боку», і Р. Янкоўскі бадзёрым тонам аддае «правільныя» загады, якія ўжо цяпер будуць правільна выконвацца. Артыст іграе перамогу Чашкова над усімі. У п'есе ж герой толькі заваяваў права змагацца за свае метады кіравання. І драматург дае магчымасць гледачам падумаць аб тым, як далей будзе развівацца садружнасць Чашкова, Рабініна і Плужына...

Затое гранічна дакладным быў рэжысёр у сваіх заданнях выканаўцам роляў Граматкіна (П. Малчанаў), Палуэктава (В. Шрамчанка), Падключнікава (А. Кашкер), Рымы (Л. Арцабасава), Крукава (К. Шышкін), Сонечкі (Г. Абуховіч)... Што ж, гэта пералік акцёраў: шкада, памер артыкула не дазваляе нам прывесці доказы таго, што яны далі сапраўды жыццёвыя тыпы. Толькі зробім выключэнне для П. Малчанава, які ўпершыню выступіў на рускай сцэне ў Мінску. Філіграннная работа і майстэрства артыста як бы памножана на яго жыццёвы вопыт, які і дазволіў П. Малчанаву быць чалавечным і строгім да сябе, знайсці тонкія нюансы ў мімічнай ігры і ў інтанацыях голасу, хоць на сцэне яго Граматкін затрымліваецца не больш як на дзесяць хвілін.

Да гонару рэжысуры трэба аднесці графічна-выразны малюнак дэкаратыўнага афармлення спектакля (мастак Б. Герлаван) і маштабную па гучанні музыку А. Янчанкі, якая не «выпірае», а тактоўна падкрэслівае напружанне маральных сутыкненняў паміж героямі п'есы. Тут Ф. Шэйн паказаў сябе ўдумлівым інтэрпрэтатарам сучаснага драматургічнага твора на так званую «вытворчую тэматыку». Умоўныя прыёмы перамены месц дзеі ўспрымаюцца як адзіна магчымыя і па-мастацку абгрунтаваныя ў дадзеным выпадку літаратурнай першакрыніцай тэатральнага відовішча.

Здаецца, чым бы маглі ўвагу гледача зацікавіць пытанні чыста вытворчыя — пра сабекошт вуглеродзістага ліцця, пра серыйнасць і пескамёты, пра адліўныя блокі і гаспадарчы эфект... Пра гэта гавораць і горача дыскутуюць героі спектакля. Але нас цалкам захапляе тое, што адбываецца на сцэне. Нават тады, калі мы ў вобразе Аляксея Чашкова або ў Плужыне ці Рабініне пазнаем нешта знаёмае нам па даўнейшых сцэнічных творах. Ёсць у спектаклі той мастацкі нерв, які перадае напал і сутнасць некаторых істотных канфліктаў сённяшняга дня.

Таму «Чалавек з боку», паказаны Рускім тэатрам БССР напярэдадні летніх гастроляў, быў сустрэты мінчанамі як цікавы і прынцыпова новы ў рэпертуары гэтага калектыву спектакль.

Алесь МАЖЭЙКА.

Р. РОДЧАНКА

# ТОЕ, ШТО НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА

*ЗАПІСКІ ПАРТЫЗАНА*

**Даўно адшумела ваеннае ліхалецце. Загаіліся на зямлі раны — параслі хмызамі варонкі, зацягнуліся, згладзіліся брустверы акопаў, па схілах былых траншэй — чырвонымі кроплямі гараць суніцы...**

**Ды толькі памяць людская больш трывалая. Не так проста сцерці з яе тое, што назаўсёды ўрэзалася болем, нянавісцю, горам.**

**Гэтыя невялічкія былі, якія запісаў настаўнік са Слуцка Рыгор Родчанка са слоў былых партызан, — дакумент, што данёс да нас праз гады яшчэ адно сведчанне пра гераізм, пра подзвіг у імя свабоды і шчасця людзей.**

## ШАБЛЯ ДУНАЕВА

Сёлета спаўняецца 30 гадоў з дня гераічнай смерці легендарнага партызанскага камандзіра Дунаева (Тараховіча Івана Мікалаевіча).

Маладое пакаленне вельмі мала ведае пра Дунаева, бо аб ім яшчэ амаль нічога не напісана. Праўда, у кніжках аб партызанскім руху і ў дакументах часоў вайны часта ўпамінаецца Дунаеў, але ўсюды аб ім гавораць мімаходзь.

Між тым, у 1942—1943 гадах імя Дунаева на Случчыне і ў некаторых іншых раёнах Беларусі было вельмі папулярным.

У 1943 годзе ў атрадзе я чуў песню пра Дунаева, складзеную партызанам Лукінскім. Вось урыўкі з яе, што мне запомніліся:

*У ціхі лес прыйшоў ён першым,*
*Партызанам стаў.*
*Браў сыноў ён стойкіх, верных,*
*Так атрад ствараў.*
*Біўся наш Дунай бясстрашна...*

Працяг песні я забыў. Ведаю толькі, што аўтар гэтай няхітрай песні быў інжынерам па спецыяльнасці. Ён загінуў.

У пасляваенны час, да ўзбуйнення, адзін з калгасаў Капыльскага раёна насіў імя Дунаева.

Жыццё і баявая дзейнасць Дунаева — яскравы прыклад бязмежнага патрыятызму і гарачай любві да Радзімы. Я не займаўся спецыяльна вывучэннем яго біяграфіі. Проста хачу расказаць тое, што ведаю пра яго, пра сваю сустрэчу з ім, пра яго гераічную смерць. Будзем спадзявацца, што былыя партызаны і сваякі Тараховіча дапоўняць мае нататкі сваімі ўспамінамі.

Вясною 1942 года па Случчыне і Капыльшчыне прайшлі чуткі пра Дунаева, бясстрашнага народнага мсціўцу. У народзе хадзілі легенды аб ім, аб яго баявой дзейнасці.

Ранняй вясной 1942 года ў маёнтку Кралімонты Капыльскага раёна партызаны ўзялі для сваіх коней некалькі мяхоў аўса і пакінулі распіску: «Мною, старшыной Варанаевым з казачага корпуса Дунаева, узята... мяшкоў аўса»... Распіску кладаўшчык перадаў акупацыйным уладам у Капыль і расказаў пра яе людзям. Змест распіскі выклікаў паніку сярод акупантаў і іх наслугачоў і радасць сярод насельніцтва. Ад сяла да сяла перадаваліся расказы пра казачы корпус Дунаева, які, быццам бы, прайшоў па тылах ворага. Знаходзіліся людзі, якія «на свае вочы» бачылі гэты корпус. Яны расказвалі: «Усе на белых конях, апрануты добра...»

Слава Дунаева канчаткова замацавалася, калі ён у сакавіку 1942 года са сваім невялікім атрадам зрабіў дзёрзкі налёт на горад Слуцк, дзе размяшчаліся акупацыйныя ўстановы і моцны нямецка-паліцэйскі гарнізон.

За гады акупацыі партызаны разграмілі шмат нямецка-паліцэйскіх гарнізонаў у сёлах, мястэчках і райцэнтрах Беларусі, але налёты на такія параўнальна буйныя гарады, як Слуцк, рабіліся рэдка. Тым больш, у 1942 годзе — у пачатковы перыяд развіцця партызанскага руху.

Вось што піша А. Грыцкевіч у кнізе «Слуцк» пра гэту аперацыю атрада Дунаева:

«Зімою 1941—1942 гг. Мінскае партызанскае злучэнне правяло вялікі рэйд па абласцях Беларусі. Маршрут рэйду ў сакавіку праходзіў і праз тэрыторыю Слуцкага раёна. Да падыходу да Слуцка партызаны ліквідавалі нямецкі гарнізон Грэска. Пасля гэтага партызанскі атрад пад камандаваннем І. М. Тараховіча («Дунаева») зрабіў налёт на горад Слуцк.

Смелыя дзеянні партызан выклікалі паніку сярод фашыстаў, выкарыстаўшы якую, народныя мсціўцы вызвалілі савецкіх ваеннапалонных, разграмілі банк, захапілі ўсе каштоўнасці і пакінулі горад. Гітлераўцы панеслі вялікія страты. Партызаны перадалі захопленыя сродкі на будаўніцтва самалёта «Партызан Слуцка».

Упершыню я ўбачыў славутага Дунаева ў другой палове жніўня 1942 года, калі ўступіў у партызанскі атрад. Вось як гэта было. У атрад я прыйшоў без зброі. Паўстала пытанне: дзе ўзяць вінтоўку? Ёсць такая руская прымаўка: «Голь на выдумку хитра». Вядома, што і я знайшоў выйсце. Я ўспомніў — мой сябра Коля Мікалаеня хваліўся мне, што ў яго ёсць вінтоўка, шабля і наган, якія ён забраў ад забітага нашага афіцэра-кавалерыста ў 1941 годзе. Пра гэта я расказаў свайму бацьку, палітруку роты атрада імя Суворава.

— Зброя твайму сябру не патрэбна, а нам прыгадзіцца. З'ездзім і забяром яе, — сказаў бацька.

Неяк пад вечар мы селі на падводу і паехалі ў Лешню, дзе жыў Коля. Але хлопец заўпарціўся, маўляў, няма ў яго ніякай зброі, дый годзе. Доўга ўпрошвалі, нарэшце Коля здаўся:

— Вінтоўкі і нагана ў мяне няма. Ёсць толькі шабля.

(На самай справе ў Колі былі вінтоўка і наган. Гэтай зброяй ён пазней узброіў свайго старэйшага брата, калі той пайшоў у партызаны).

— Давай шаблю, — сказаў бацька.

Я стаяў каля плота і назіраў за вуліцаю і сцэнаю «перагавораў». Коля падняў дошку ганка і выцягнуў з-пад яе загорнутую ў анучу афіцэрскую шаблю.

Мы забралі шаблю і паехалі ў Раёўскі лес. Настрой быў сумны: шабля не зброя ў сучаснай вайне.

Славутага камандзіра мы знайшлі на лінейцы сярод буданоў яго атрада. На ім быў накінуты нааапашкі генеральскі шынель, а з-пад шыняля відзеліся чырвоныя лампасы на сініх казацкіх галіфэ. На галаве ў Дунаева была фуражка марскога афіцэра з цэшкаю.

Так я ўпершыню ўбачыў жывога Дунаева, пра якога шмат чуў. Да 1939 года, пакуль не пачаўся вызваленчы паход у Заходнюю Беларусь, Тараховіч І. М. служыў у казачым палку, які дыслацыраваўся ў вёсцы Канюхі Слуцкага раёна. У гэтым палку служыў на звыштэрміновай службе муж сястры майго бацькі, старшына Якаў Краўцоў. Тараховіч і Краўцоў жылі ў адным доме, служылі ў адным палку, сябравалі. Праз сваю сястру мой бацька быў знаёмы з Тараховічам. Дарэчы, у казачым палку да вайны служыў падпалкоўнік Дунаеў, былы партызан грамадзянскай вайны. Адсюль, мусіць, псеўданім Тараховіча — Дунаеў.

Мой бацька ведаў, што Тараховіча, былога казака, шабля зацікавіць, але бацьку, камуністу і палітруку, няёмка было казаць, што мы прыйшлі мяняць шаблю на вінтоўку, і ён сказаў Дунаеву:

— Іван Мікалаевіч, мой таварыш хоча з табою пагаварыць. (Бацька мяне жартам называў «сваім таварышам»). Дунаеў адразу здагадаўся, аб чым я хачу з ім гаварыць: у руках у мяне была шабля.

— А ну, пакажы, — сказаў ён і ўзяў у мяне з рук шаблю. Выцягнуў яе з ножнаў, пакруціў і сказаў: — Добрая штука. Што ты за яе хочаш?

— Вінтоўку.

— Што ж, згодзен, хадзем,

Мы пайшлі за Дунаевым. Ён падвёў мяне да кучы трафейных нямецкіх вінтовак.

— Выбірай любую, — сказаў камандзір.

Я выбраў карабін. Дунаеў кагосьці паклікаў (мусіць, старшыну роты) і загадаў яму выдаць мне пяцьдзесят патронаў.

Сустракаў я на дарогах вайны Дунаева яшчэ некалькі разоў, але гаварыць з ім больш не давялося.

Помню, як партызаны святкавалі 25-ю гадавіну Вялікага Кастрычніка. Іграла духавая музыка. Была зроблена трыбуна. У гонар свята брыгада збіралася правесці парад і разграміць нямецка-паліцэйскі гарнізон у Капылі. Брыгада стаяла ў лясах пад Старыцай і Вялешынам. Старыцкім гарнізонам камандаваў Дунаеў. Але не драмаў і вораг. К 6 лістапада 1942 года вораг сканцэнтраваў да 7 тысяч пяхоты, — з танкамі, гарматамі і мінамётамі. Усё гэта было кінута супраць Старыцкага гарнізона. Вораг меў перавагу ў чатырнаццаць разоў.

На світанні 7 лістапада 1942 года грымнуў бой. Гітлераўцы, абляпіўшы танкі, рынуліся ўперад. Партызаны падпусцілі варожыя танкі з дэсантам на 200 метраў і адкрылі агонь. Трапным агнём партызанскія артылерысты падпалілі галоўны танк. Партызанскія стралкі, кулямётчыкі, мінамётчыкі і аўтаматчыкі знішчылі і рассеялі танкавы дэсант. Атака была адбіта.

Фашысты зноў і зноў кідаліся ў атакі. Бой цягнуўся да вечара. Дунаеў з'яўляўся на самых небяспечных участках абароны і асабістым прыкладам усяляў веру ў перамогу над ворагам. У час адной з контратак варожая куля абарвала яго жыццё. Байцы аднеслі цела любімага камандзіра ў глыб лесу і часта прыкрылі галлём. Яны спадзяваліся, што пасля бою пахаваюць

Алесь МАХНАЧ

# ДЗЕЦІ КРЭПАСЦІ

*УРЫВАК З ДАКУМЕНТАЛЬНАЙ АПОВЕСЦІ*

**27 чэрвеня спаўняецца 50 гадоў пісьменніку Алесю Махначу. Праўленне СП БССР накіравала яму ў сувязі з юбілеем прывітальны адрас:**

**«Дарагі Алесь Іванавіч!**

**Шчыра, сардэчна віншуем Вас, нашага сябра і таварыша па пяру, з нагоды Вашага 50-годдзя з дня нараджэння.**

**У мінулую вайну Вы мужна змагаліся з ворагам, былі ўдзельнікам гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці.**

**Літаратурную творчасць пачалі з вершаў, а пасля сталі працаваць і ў жанры драматургіі. Прыемна адзначыць, што Вашы аднаактовыя п'есы трывала ўвайшлі ў рэпертуар самадзейных драматычных калектываў.**

**Юныя гледачы з цікавасцю сустрэлі Вашы п'есы «Шпачок» у народных тэатрах рэспублікі і «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці», якая пастаўлена тэатрамі Беларусі, РСФСР, Украіны.**

**Вы з'яўляецеся аўтарам і шэрагу нарысаў, якія пераважна прысвечаны паказу гераічных подзвігаў юных герояў у дні Вялікай Айчыннай вайны.**

**Ад усёй душы жадаем Вам, дарагі сябра, доўгіх год жыцця, цудоўнага настрою, творчых радасцей».**

**Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» таксама віншуе юбіляра і жадае яму, былому лімаўцу, творчых поспехаў. Разам з тым прапануем чытачам урывак з дакументальнай аповесці.**



Бух-бух-бух!!!

Зноў падаюць снарады. Цяжкімі выбухамі калоцяць зямлю, трасуць таўшчэзныя сцены крапасных казематаў.

Снарады лажацца недзе непадалёку. Раз-пораз у цёмны падвал урываюцца пругкія хвалі паветра з густым перагарам дыму і раструшчанай цэглы.

Ад едкага пылу, што хвалямі ходзіць у гэтым сутарэнні, Нюра забілася пад нейкія дашчаныя нары, заплюшчыла вочы.

Але і тут не схаваешся ад голаду, смагі. Яны неадступна даюць пра сябе знаць. Нават і ў кароткія хвіліны сну дзяўчынцы здаецца, што перад ёю плешчыцца цэлы акіян вады, якую п'е-п'е, а наталіць смагу не можа. Перад вачыма мроіцца шырокае поле, дзе на кожнай сцяблінцы звісаюць пульхныя буханкі хлеба. Нюра бяжыць да іх, хоча дацягнуцца рукамі, ды ніяк не можа. Прачынаецца дзяўчынка яшчэ больш стомленая, разбітая цяжкім сном.

Нюры цяпер можна было б з'есці кавалачак цукру, які ўжо трэція суткі ляжыць у санітарнай сумцы, але без вады ён нібы той пыл, заб'е горла, пачнецца страшны кашаль.

«Якая была дурніца, вады баялася»... — Яна ўспомніла, як да вайны, калі аднойчы вярталася са школы, ліў вялізны дождж і яго давялося перачакаць пад густым лісцем каштана. Тады з ёй ад дажджу схаваліся і Ліда Несцярчук і Валодзя Казьмін. З Лідай у адным класе вучылася. Жыла Ліда там, за Мухаўцом. Дзе цяпер яна, школьная сяброўка? Дзе цяпер выхаванец 44-га стралковага палка, танклявы, вясёлы Валодзя?

Нюра не ведала, што ў гэтыя мінуты Ліда знаходзіцца ў крэпасці. Ля ўсходніх валаў Кобрынскага ўмацавання вядзе бой яе бацька, старшы палітрук Несцярчук. Лідзіны мама і дванаццацігадовы брат Клім таксама тут, дапамагаюць абаронцам, перавязваюць іх раны.

Па загадзе камандавання Лідзе, яе маме і брату, усім жанчынам і дзецям трэба пакідаць Кобрынскае ўмацаванне.

— Гэта мы павінны зрабіць у імя сваіх дзяцей. Можа з іх хто-небудзь застанецца ў жывых, — гаварылі камандзіры.

— Нам няма куды ісці. Нашы родныя і блізкія ляжаць тут пад руінамі, — заявілі многія жанчыны і засталіся ў крэпасці.

Засталася і Ліда ля цяжкапараненага бацькі. Ён паклікаў лейтэнанта Акімачкіна і ціха сказаў:

— Адпраў маю дачку з крэпасці... У мяне ў пісталеце засталіся толькі два патроны. Адзін для ворага, а другі — для сябе...

Ліда здагадалася, аб чым ідзе размова, кінулася да бацькі, пачала плакаць.

— Не магу пакінуць цябе, тата, параненых...

Пазней, ужо ў брэсцкай турме, куды кінулі фашысты піянерку, знайшліся Лідзіны мама Агаф'я Антонаўна і брат Клім.

— Як там нашы, як бацька? — усё дапытвалася ў дачкі маці. Ёй хацелася верыць, што ён жывы, жывыя і чырвонаармейцы яго дывізіёна, што яны ўсе прарваліся з крэпасці, дайшлі да лініі фронту і там працягваюць знішчаць фашыстаў.

Ліда расказвала пра ўсё, што засталося ў дзіцячай памяці: і пра бацьку, і пра яго адважных артылерыстаў.

— Ты рабі перавязкі так, каб ніхто не здагадаўся, што камандзір паранены, — успамінала дзяўчынка бацькавы словы.

Лідзін бацька быў з жартаўлівай усмешкай на твары, стараўся не выдаць страшны боль ад тых вострых асколкаў, якія глыбока заселі ў ранах і пякучым агнём рэзалі цела. Пра ўсё гэта не павінны былі ведаць ні родная дачка, ні байцы. Старшы палітрук — камандзір, камуніст, з яго бралі прыклад.

Такім назаўсёды ў памяці Ліды застаўся яе бацька, якога яна ў крэпасці бачыла ў апошні раз.

□

На Кобрынскім умацаванні, тут, непадалёку ад Ліды, ва Усходнім форце, быў і Валодзя Казьмін, жывы, ні куляй, ні асколкам не крануты.

Камандзір палка маёр Гаўрылаў на трэці дзень вайны загадаў хлопчыку:

— Пойдзеш, Валодзя, да начальніка лазарэта... у памочнікі...

Гаўрылаў думаў, што ў падвалах, дзе знаходзяцца параненыя, выхаванцу палка зацішней: туды не так далятаюць кулі, асколкі. Там усё-такі хлапчук будзе пад наглядам жанчын. А тут не заўсёды ўгледзіш за гэтым жвавым падросткам, які ўсюды стараецца паспець за чырвонаармейцамі.

яго з усімі вайсковымі пашанамі.

Скончыліся патроны, снарады, міны. Пад націскам ворага атрады Старыцкага гарнізона адышлі ў Вялешанскі лес.

Вораг страціў у гэтым баі цяжкі танк, два лёгкія, дзве бронемашыны, 16 аўтамашын, некалькі матацыклаў і сотні забітымі і паранеными.

Цела Дунаева фашысты знайшлі, забралі з сабою і выдавалі яго ў Слуцку за забітага партызанскага генерала.

Што ж, фашысты, бадай, не памыліліся. Лейтэнант інтэндацкай службы Іван Мікалаевіч Тараховіч, па сутнасці, і быў слуцкім партызанскім генералам.

## ПАЛЯСОЎШЧЫК КУЗЬМА ПУПКЕВІЧ

У партызанскіх справаздачах я натрапіў на такі запіс: «З 23 па 24 жніўня 1942 года партызанская група на чале з І. В. Арастовічам знішчыла 6 мастоў на дарозе Асіпавічы — Бабоўня, знішчыла чыгуначны мост на ўчастку Слуцк — Урэчча, вывела са строю млын і лесапілку ў вёсцы Кучына. З 13 па 17 верасня гэтага года група знішчыла 8 мастоў на рэках Случ і Вясейка, разграміла паліцэйскі гарнізон у вёсцы Амговічы і знішчыла маслазавод. У гэтых аперацыях удзельнічалі Іван Арцёмавіч Траян, Павел Анісімавіч Гаўрыловіч, Кузьма Іванавіч Пупкевіч і іншыя».

Звычайная справаздача аб баявых дзеяннях партызанскай групы. Чытаючы яе, я ўспомніў пра подзвіг палясоўшчыка Кузьмы Іванавіча Пупкевіча, імя якога ўпамінаецца ў гэтым дакуменце.

Да вайны Кузьма Пупкевіч працаваў леснікам (палясоўшчыкам). Калі наш раён акупіравалі фашысты, Кузьма Пупкевіч стаў дапамагаць партызанам: быў іх сувязным, разведчыкам. Нехта данёс пра сувязі яго з партызанамі. Кузьму, яго жонку і трынаццацігадовага сына акупанты арыштавалі і завезлі ў гарнізон.

Шмат перадумаў Кузьма Пупкевіч, седзячы ў камеры! Здавалася — выйсця няма. І сын здагадаўся, што іх чакае.

— Тата, нас паб'юць? — пытаўся ён бацьку.

— Не бойся, сынок. Я тут. нешта ж будзе, — супакойваў Кузьма сына.

Калі на світанні расчыніліся дзверы камеры і Пупкевічу з сынам загадалі выходзіць, Кузьма зразумеў, што настаў яго апошні бой і што трэба дзейнічаць.

Нямецкі салдат, які вёў Пупкевіча і яго сына, сказаў Кузьму ўзяць рыдлёўку. А вывеўшы арыштаваных за хлеў, загадаў капаць яму.

— Тата, нас паб'юць, — плакаў сын.

— Не плач, сынок, я тут, — гаварыў Кузьма, капаючы яму.

Салдат стаяў непадалёку з пісталетам у руцэ.

«Капаю я, а сам думаю: біць трэба па пераноссю,—успамінаў пасля Пупкевіч. — Зямлю сыплю бліжэй да ямы. Калі скончыў капаць, паказаў салдату, каб падышоў і паглядзеў ці хопіць, ці глыбока. Калі той падышоў, з усяго размаху храснуў яго рыдлёўкай па пераноссю. Як меціў, так і патрапіў. Салдат, як сноп, паваліўся на зямлю. Бяжым, сынок, кажу. А ён — «не магу, ногі не ідуць».

Тады Кузьма ўзваліў сына на плечы і кінуўся ў кусты, а потым у лес.

Калі фашысты агледзеліся, было позна: Кузьмы і след прастыў.

Я чуў, што Кузьма Пупкевіч пазней загінуў. Сын яго быў адпраўлены за лінію фронту лячыцца. Пасля вызвалення Беларусі малодшы Пупкевіч вярнуўся ў родныя мясціны.

Мне нехта казаў, што ён жыве ў вёсцы Урэчча Любанскага раёна.

## МІКАЛАЙ І ВЕРА

Акупацыйная паліцыя і СД 5 чэрвеня 1942 года паведамлялі сваім вышэйшым органам: «У гор. Слуцку былі павешаны 30 партызан і 38 заложнікаў расстраляны...»

Я прачытаў гэтыя радкі Надзеі Дзмітрыеўне Краўцовай, якая пражывала ў Слуцку ў той час. Вось што яна расказала:

«Было гэта 17 ці 18 красавіка 1942 года. Я на ўсё жыццё запомніла гэты жудасны дзень. Раніцою да мяне заехаў Юзік Жаўрык, які працаваў шафёрам у Цімкаўскім маёнтку. «Надзя, — сказаў, ён, — я чуў, што сёння будуць вешаць у горадзе нейкіх людзей». У хуткім часе словы Жаўрыка пацвердзіла мясцовае радыё. Недзе ў сярэдзіне дня па радыё акупанты загадалі ўсім жыхарам выйсці на цэнтральную вуліцу, дзе будуць вешаць партызан і іх памочнікаў. Я апранулася і пайшла да турмы.

У турме сядзела мая знаёмая Вера Рачэўская. Мне хацелася даведацца, які яе напаткаў лёс, ці не трапіла і яна ў лік тых, каго будуць вешаць.

Калі я падышла да натоўпу, які сабраўся каля турмы, з варот турмы выводзілі пад моцным канвоем каля сямідзесяці арыштаваных мужчын, жанчын і дзяўчат. Большасць арыштаваных былі мужчыны.

(Заканчэнне на 11-й стар.)





Вольга Шутава.



Марына Дабарская.



Анатоль Падгайскі.



Мікалай Шышкін.



Віктар Сінайскі.



Тамара Раеўская.

**З поспехам прайшлі канцэрты майстроў беларускай эстрады ў Мінскім палацы спорту, прысвечаныя 50-годдзю ўтварэння СССР. На гэтых здымках вы бачыце некаторых удзельнікаў канцэрта.**

Фота Ул. КРУКА.



«Рускі сувенір» выконваюць Любоў Ліпская, Лёля Краліна, Расціслаў Ліпскі.

Аднак маёр памыліўся. Памочнікаў у начальніка лазарэта ваенфельчара Раісы Абакумавай было хоць адбаўляй.

— Лепш ідзі адпачні, — сказала яна, — гледзячы на стомлены хударлявы твар хлапчука.

— А калі прынесці лёду?—у галаве Валодзі мільганула выратавальная думка.—Ён жа там, у лядоўні, ля былога будынка санітарнай часці. Можа цяпер гэта самае надзейнае лякарства...

Яшчэ ўчора кавалачкі лёду Валодзя даваў параненым. Людзі гаварылі, што гэтае «лякарства» знімае пакутлівыя болі, гарачку, спыняе трызненне, надае сілы...

І хлапчук праз якую-небудзь гадзіну ўжо беражліва трымаў перад Раісай Іванаўнай у прыгаршчах кавалачак лёду і ніякавата апраўдваўся.

— Ён растаяў... па дарозе...

— Дзе быў? — грозна спытала ваенфельчар.— У лядоўні?!

Выхаванец палка маўчаў, здагадваўся — мабыць, хваліць за гэта не стануць.

— Хочаш галаву сваю дарэмна зляжыць?..

Вечарам дзесьці далёка загрымелі цяжкія гарматы. Снарады няшчадна пачалі малаціць па крэпасці. Дымам і пылам ахутала ўсё. Валодзя кароткімі перабежкамі, ад варонкі да варонкі, некалькі разоў паспеў дабрацца да лядоўні і прынесці адтуль незвычайнае «лякарства».

Толькі пад раніцу начальнік лазарэта даведалася пра самастойную баявую аперацыю свайго «памочніка». Раіса Іванаўна павінна была пасварыцца на хлапчука, ды не змагла. У адным з казематаў яна ўбачыла вялізныя кавалкі лёду. Яны плавалі ў тазах, місках, Лёд быў порысты, хутка раставаў. А хлапчук беражліва зліваў ваду ў біклагі, бутэлькі.

— Схадзі да маёра, далажы, што ты нас выручыў,— нейк само з палёгкай вырвалася ў Раісы Іванаўны.— Схадзі! — урачыста дадала яна і ласкава, нібы маці, пацалавала Валодзю.

☐

Цэлы тыдзень ужо фашысты ля сцен Брэсцкай крэпасці, ды не могуць яе ўзяць.

Гітлераўскі генерал раз'юшаны: загадвае сцерці ў парашок Усходні форт, дзе кіруе боем адважны савецкі маёр і яго камісар: можа гэта нагоніць страх на астатніх абаронцаў пагранічнай крэпасці...

Вораг падцягнуў сюды сваю новую звышмагутную гармату. Навёў яе на ўмацаванні форта, пачаў страляць снарадамі вагой у дзве тысячы дзвесце кілаграмаў кожны.

Стралялі доўга. Здавалася: у форце ўсё пахавана пад абломкамі цэглы і каменя, што там нікога ў жывых не засталося.

Неўзабаве фашысты пайшлі на форт. А ў ім, адкуль ні вазьміся, савецкія салдаты, нават кінуліся на гітлераўскіх аўтаматчыкаў у штыкавую. Завязаліся рукапашныя баі на лесвіцах і дахах будынкаў, земляных валах і ў казематах. Фашысты не вытрымалі штыкавога націску і кінуліся ўцякаць.

На наступны дзень гітлераўскі генерал выклікаў самалёты. Наляцелі яны, нібы груганы на Усходні форт, пасыпаліся на нашых абаронцаў бомбы. Загаманіла варожая артылерыя, танкі. Бамбяць фашысты форт, б'юць па ім з гарматаў. Толькі, бывае, на хвіліну-другую ўтаймуюцца, каб праз радыёўстаноўку пасляць свае пагрозы...

Маёр Гаўрылаў, яго намеснік па палітычнай частцы палітрук Скрыпнік і начальнік штаба капітан Касаткін вырашылі склікаць адкрыты партыйны сход. Прыйшоў на сход і выхаванец палка Валодзя Казьмін.

Перад пустымі скрынкамі ад патронаў сеў прэзідыум сходу. Газоўка, зробленая з пустой гільзы артылерыйскага снарада, цьмяна асвятляла змучаныя страшным голадам, смагай і цяжкімі баямі хударлявыя твары людзей.

Узяў слова маёр.

— Таварышы! Дарагія героі, — гаварыў ён.— Мы, воіны Чырвонай Арміі, яшчэ ў мірныя дні прысягалі свайму народу і роднай партыі быць заўжды гатовымі выступіць на абарону Радзімы, кляліся абараняць яе мужна, стойка і, калі гэта спатрэбіцца, не пашкадаваць уласнага жыцця ў імя поўнай перамогі над ворагам. І мы сваю клятву не парушым, будзем выконваць яе да канца, выконваць, як камуністы...

Гаўрылаў далажыў сходу пра цяжкасці нашай абароны, а закончыў сваю прамову словамі:

— Камуністы застануцца ў крэпасці да канца! Будуць тут змагацца супраць ворага да апошняга патрона, да апошняй гранаты, да апошняй кроплі крыві! Так думаю я. А што скажаце вы, таварышы камсамольцы і беспартыйныя воіны?

Адразу пачуліся галасы:

— Застаемся з вамі!

— Прыміце нас у партыю!

На скрынку перад прэзідыумам сходу. пачалі класціся заявы...

Хацелася і Валодзю напісаць такую заяву, каб і яго лічылі камуністам. Ды, на жаль, гадамі не выйшаў...

☐

У крэпасць прабраліся фашысцкія агнямётчыкі...

Нават дзяўчынкі ўзялі вінтоўкі і разам з хлопчыкамі дзяжураць ля вузенькіх акон-амбразур, што выходзяць з падвалаў.

Абаронцы рыхтуюцца да новага бою. Сядзіць і Коля Новікаў ля кулямёта, просіцца ў пагранічніка Ерамеева:

— Таварыш яфрэйтар, вазьмі мяне ў свой разлік.

— Не магу. Ты яшчэ малы. І лейтэнант Кіжаватаў не дазволіць, — адказвае кулямётчык.

— Дарма, што малы... Вунь Пецьку Васільева ведаў? — пытае Коля.— Ён сягоння на другім паверсе клуба адзін з кулямётам застаўся. Адзін абарону трымаў. А яго ж у падвал таксама гналі... А Пецька вунь быў сапраўдны Гаўрош Брэсцкай крэпасці...

Праўда, Пеця Васільеў быў крыху старэйшы за Колю, ён і ростам вызначаўся сярод сваіх аднагодкаў. Пеця часта хадзіў у контратакі на фашыстаў. І ўсё ж, разы са два лейтэнант Санін адпраўляў выхаванца ў падвал. Тады Пеця пераходзіў да лейтэнанта Кіжаватава альбо другога камандзіра. У час апошняга бою хлапчук удзельнічаў у вызваленні будынка клуба. У рукапашнай нашы воіны выбілі фашыстаў, ды толькі ненадоўга. Вораг уварваўся сюды зноў, заняў першы паверх. На другім — застаўся апошнім у жывых выхаванец палка Пеця. Ён лёг за станкавы кулямёт, выпусціў усе патроны, пачаў кідаць гранаты. На выручку герою пайшлі нашы воіны. Калі ачысцілі ад фашыстаў будынак клуба, там ля кулямёта і знайшлі смяротна параненага выхаванца 333-га стралковага палка Пецю Васільева. Так загінуў юны герой.



# УГЛЯДАЮЧЫСЯ Ў ЖЫЦЦЁ

СТАЯЛІ ЛЯ КАРЦІНЫ два крытыкі. Аднаму яна падабалася, другому — не.

— Можа, лепш, калі б выказала прысуд кібернетычная машына? — спыталася я ў аўтара карціны.

— Не, што вы! — не згадзіўся аўтар. — Раўнадушнасць горш за усё. І калі не хваляць, дык няхай ужо ганяць. Абгрунтавана, канечне. Гэта ва ўсіх выпадках лепш, незалежна ад таго, пагодзішся ты з выказанымі меркаваннямі ці застанешся пры сваіх думках. Для мастака раўнадушнасць да яго твораў — горш за самую жорсткую крытыку...

Прыкладна такая гаворка адбылася ў мяне з Гаўрылам Харытонавічам Вашчанкам.

Каля яго твораў раўнадушных не бывае.

— Ён — монументаліст. Займаецца станковым жывапісам. Піша акварэлі. Выкладае. Вядзе немалую грамадскую работу. На выкладанне — асноўная частка рабочага часу: Вашчанка кіруе манументальным аддзяленнем у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце ўжо дзесяць гадоў.

Выхаванне творчай моладзі — справа адказная, і таму нас цікавіць уласны вопыт мастака, якому гэтая справа даручана.

— Цяпер такі час, — дзеліцца думкамі Гаўрыла Харытонавіч, — калі накоплены і асэнсаваны дастатковы вопыт мастацкага выхавання і ў нас у рэспубліцы. Смела можна сказаць: школа стабілізуецца. Мы, як і кожная мастацкая навучальная ўстанова, павінны і развіваць уменне бачыць, і навучаць граматыцы. Трэба і адукаваць будучага мастака, і адкрыць яго творчую індывідуальнасць... Без індывідуальнасці — не мастацтва, а рамяство. Веданне ж заканамернасцей мастацкай творчасці памагае індывідуальнасці раскрыцца. Усе жывапісцы пішуць па-свойму, але ёсць агульныя для ўсіх законы ўспрыняцця кампазіцыі, малюнка, каларыту, рытму. На іх творчым засваенні грунтуецца талент...

Для студэнтаў самі работы педагога, звычайна, не менш переканальныя, чым тэарэтычныя парады. У Вашчанкі ж работ—нямала.

У САДРУЖНАСЦІ з У. Стальмашонкам ён распісаў актавую залу Беларускага тэхналагічнага інстытута, стварыў вітраж «Космас» і пано «Лета» і «Мара» для Мінскага палаца піянераў, разаліты «Мастацтва» і «Праца», мазаіку «Палёт» для Палаца культуры Мінскага камвольнага камбіната. Разам з А. Кішчанкам стварыў картон для роспісу на тэму Вялікага Кастрычніка. Гэты картон экспанаваўся на Усесаюзнай выстаўцы твораў манументальнага мастацтва ў Маскве і станоўча ацэнены крытыкай. Ёсць у майстэрні мастака эскізы іншых манументальных работ.

Ва ўсіх гэтых творах прасочваецца пэўная эвалюцыя: з чыста знешняй дэкаратыўнасці акцэнт пераносіцца на лірыка-філасофскае паглыбленне ў тэму.

Аналагічная эвалюцыя — і ў станковым жывапісе Вашчанкі.

— Ён — удзельнік шматлікіх рэспубліканскіх і ўсесаюзных выставак. Яго работы экспанаваліся ў Англіі, Польшчы, Францыі, Чэхаславакіі, на Кубе.

Мастак вядзе пошукі ў розных жанрах: піша пейзажы, партрэты, нацюрморты, стварае складаныя кампазіцыі. Нельга сказаць, што талент яго развіваецца роўна. Гэта відаць, напрыклад, у створаных ім партрэтах.

Вось «Яблынька». Прыгожае па колерах, вытрыманае ў блакітна-серабрыстай гаме палатно. Сярод пругкіх галінак квітнеючай яблынькі — кволая жанчына, якая чакае дзіця. Гэта яшчэ не партрэт. Хутчэй — сімвал цвіцення, вясны, чакання. Меладычны рытм. Гарманічныя колеры. І ўсё ж: прыгожае дэкаратыўнае палатно — не больш.

Пазней Вашчанка напісаў твор «Двое». Фігуры маці і дачкі — нерухомыя. Але яўна ўгадваеш: людзі гэтыя — у хвілю ўнутранага сутыкнення. Разумееш: у іх— незалежныя, моцныя і розныя характары. Жыццёвыя назіранні падказалі мастаку тэму складанасці ўзаемаадносін блізкіх людзей, якія і любяць адно аднаго, але не заўсёды могуць паладзіць. На жаль, увагу ад гэтага двайнога партрэта ў палатне адцягваюць вялікія кветкі бэзу на ярка-сінім фоне акна. Унутраны свет дваіх акрэслены мастаком не так выразна, як прыгажосць бэзу, напісанага сапраўды па-майстэрску.

Былі і яшчэ партрэты.

А зусім нядаўна Вашчанка напісаў партрэт мастака Міхася Савіцкага. Вобраз адразу ж прыцягвае ўвагу нязвыкласцю трактоўкі. Для большасці, хто ведае М. Савіцкага, ён — увасабленне стрыманасці, лагічнасці, ураўнаважанасці. А тут раптам — сумненні, неспакой, нешта нават падобнае на разгубленасць, безабароннасць. Такая нязвыкласць вобраза бянтэжыць. Не паверыць аўтару быццам бы і нельга — партрэт вабіць аўтарскай шчырасцю, усхваляванасцю. І ўсё ж нешта перашкаджае цалкам прыняць яго. Здзіўляюць і некалькі змененыя рысы падбародка, ілба. Я сказала б, што ад іх пачынаецца ва ўспрыняцці гледача не працэс пазнавання, прачытвання, а... разгадвання. І гэта замінае адгукнуцца на цікавае, што ўсё ж удалося аўтару расказаць у партрэце пра чалавека.

БЕЗУМОЎНА, кожны бачыць па-свойму. І прывязанасці ў кожнага свае. Амбіцыёзная катэгарычнасць у ацэнках твора — непрымальная. Бо сапраўдны твор, як і змястоўны чалавек, патрабуе доўгага знаёмства, пакуль дастаткова глыбока спазнаеш яго. Вось і дыптых Вашчанкі «Бетон» — твор, які нямала нясе ў сабе, крытыка, на мой погляд, успрыняла залішне халодна...

І назва, і нязвыклае для дыптыха (прынамсі, у беларускім жывапісу) вертыкальнае — адно над другой — размяшчэнне частак дадзена ўпершыню. І—невыпадкова, а згодна задуме. Тут бетон — у дзвюх катэгорыях: як сіла, здольная існаваць і дзеля чалавека, і супраць яго. У ніжняй частцы («Мужнасць») герой падняўся супраць непрыступнага, як скалы, бетону, за якім — смерць. Чалавек гатовы аддаць жыццё ў імя таго, каб іншыя жылі і зноў будавалі з мірнага бетону дамы, заводы, плаціны, атамныя станцыі. Кампазіцыйна твор пабудаваны так, што верхняя частка дыптыха («Стварэнне») разгортваецца ўглыб, а ніжняя — усімі сваімі ламанымі лініямі, вострымі вугламі, узрываючыся, імкліва перакульваецца на гледача, але салдат, які кінуўся ўперад, быццам прыкрывае нас. Па кантрасце з жорсткім, механічным, аморфным нагрувашчаннем бетону постаць салдата акрэслена пругкімі, плаўнымі лініямі: у ім — жывая сіла. Гэта жыццё абарванае, але — не згаслае. Смерць у імя жыцця. І — перамога. На змену «хаосу» ніжняй частві дыптыха ідзе гармонія верхняй. Паслухмяны чалавеку-стваральніку бетон тут — то манументальны, то лёгкі. І няхай формы яго на пярэднім плане могуць і не выклікаць асацыяцый з трыумфальнымі аркамі. І няхай канструкцыі ўверсе не кожным успрымаюцца як помнік салдату, што абараніў жыццё. Але ўсё гэта — сімвал перамогі мірнага бетону над тым, што нясе разбурэнне. Увесь твор вытрыманы ў халаднавата-шэраватай з пераходам у сіняву гаме, якая літаральна звініць.

УСЕ, ХТО ЗНАЁМЫ з творчасцю Вашчанкі, не маглі не заўважыць, што ў яго часта паўтараюцца матывы з буслами.

Гаўрыла Харытонавіч — паляшук з Гомельшчыны. І, мабыць, вобраз гэтай прыгожай, звыклай для беларускага пейзажу птушкі, увабраны ў душу мастаком з самага дзяцінства, а таму такі дарагі яму і прывабны. Яны, буслы, — у палатне «Палеская песня», у мазаіцы «Палёт», што ў танцавальнай зале Мінскага камвольнага камбіната, дзе дэкаратыўнасць мазаікі, заснаваная на перадачы імклівасці палёту буслоў, так арганіч-

# ГУЧАЦЬ ТРУБЫ НАД БРЭСТЧЫНАЙ

Духавы аркестр валодае цудоўнымі якасцямі: ён можа выступаць на любой пляцоўцы, у любое надвор'е, іграць па нотах і без нот, на месцы і ў час руху.

Зараз у Беларусі толькі па лініі Міністэрства культуры налічваецца 323 духавыя аркестры. У нас у рэспубліцы для развіцця духавой музыкі робіцца многае як па лініі Міністэрства культуры, так і па лініі прафсаюзаў: праводзяцца фестывалі, агляды, конкурсы, зборы кіраўнікоў і г. д. Днямі адбылося вялікае свята духавой музыкі ў г. Брэсце, прысвечанае 50-годдзю ўтварэння СССР. Спаборнічалі паміж сабой больш як 20 аркестраў.

Па ўмовах конкурсу кожны аркестр павінен быў выканаць абавязковую праграму, куды ўваходзілі Гімны СССР, БССР, «Інтэрнацыянал» і адзін страявы марш. Трэба было прайсці па горадзе ў так званым «марш-парадзе». Аркестры ўдзельнічалі таксама ў музычным афармленні юбілейнага свята піянераў вобласці, на якім прысутнічала вялікая група харцэраў з Польскай Народнай Рэспублікі.

Пераможцам конкурсу духавых аркестраў былі ўручаны пераходныя кубкі, стужкі чэмпіёнаў і іншыя ўзнагароды. Падводзячы вынікі конкурсу, журы адзначыла агульны рост майстэрства як музыкантаў, так і кіраўнікоў аркестраў. 550 самадзейных музыкантаў прыняло ўдзел у конкурсе, з іх пераважная большасць моладзь, школьнікі ад 10 да 18 гадоў.

Калі ішоў канцэрт, усе звярнулі ўвагу на аднаго з аркестрантаў. Хлопчык з захапленнем іграў на кларнеце, а калі адлічваў такты нагой, ніяк не мог дастаць да падлогі. Гэта быў дзесяцігадовы Коля Ярашэнка, які іграе ў аркестры разам з двума братамі.

Прыемна таксама адзначыць, што амаль усе аркестры прыехалі ў форме — у адных гэта проста аднолькавыя касцюмы, у другіх — нацыянальныя беларускія сарочкі і г. д. Інструменты начышчаны да бляску, і ўдзельнікі гавораць, што ехалі на агляд, як на вялікае свята.

Першае месца па сельскіх аркестрах заняў аркестр калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна. Гэты аркестр па многіх паказчыках не ўступае аркестрам раённых дамоў культуры, а па асобных нават стаіць вышэй.

Другое месца было прысуджана аркестру калгаса імя Шчарбакова Столінскага раёна.

На трэцім месцы — аркестр баваўнянага камбіната.

Сярод пераможцаў аркестраў раённых дамоў культуры—аркестры г. Бярозы, г. п. Ганцавічы, г. Пінска, г. Івацэвічы.

Конкурс выявіў і недахопы. Кіраўнікі некаторых аркестраў мала ўвагі ўдзяляюць ладу, іншым музычным патрабаванням, і таму аркестры гучаць менш выразна. Рэпертуар іх яшчэ бедны, у сувязі з гэтым хочацца папракнуць нашых кампазітараў, якія вельмі мала пішуць для духавых аркестраў.

Хочацца, каб такія конкурсы сталі традыцыяй.

**Ул. МАРТЫНАЎ,**
заслужаны артыст БССР.

# АД ПЕРШАЙ ДА

**МЕЛАМАНЫ ўжо добра ведаюць гэтага артыста. Яго сольныя вечары і выступленні ў ансамблях прыцягваюць да сябе ўвагу слухачоў. Скрыпач Раман Нодэль ахвотна ўключае ў праграмы творы беларускіх кампазітараў П. Падкавырава, Э. Тырманд, Я. Глебава, Д. Смольскага, Д. Камінскага, а таксама віртуозныя п'есы сусветна вядомых аўтараў.**

**Варта адзначыць, што ў праграмах Р. Нодэля не бывае пустых, нецікавых мясцін, «белых плямаў». Скрыпач аддае выкананню ўсяго сябе ад першай да апошняй ноты. Яго ігра вызначаецца тэмпераментам, напорам, прыгажосцю. Канцэрт, які адбыўся нядаўна ў зале філармоніі, адкрыў новыя, прывабныя рысы ў творчым абліччы артыста: выкананне стала больш маштабным, глыбокім і цікавым, гучанне больш разнастайным, інтэрпрэтацыя твораў больш стройнай і прадуманай. Усё гэта дае магчымасць меркаваць, што скрыпач уступае ў пару творчай сталасці.**

**Звычайна, у кожным удалым канцэрце бывае твор, які робіць найбольшае ўражанне на слухачоў і застаецца надоўга ў памяці. На канцэрце, пра які мы пішам, такім творам з'явілася «Крэйцарава саната» Бетховена, твор надзвычай цяжкі, маштабны, пазбаўлены знешніх эфектаў, поўны драматызму і магутнай страснасці. Гэта «сімфонія для двух інструментаў», паводле вобразнага выразу Ж. Сігеці, была сыграна з вялікім унутраным напружаннем і сілай. Не чужыя скрыпачу трапяткая ўсхваляванасць і высакародная стрыманасць. У прафесійных адносінах Р. Нодэль паказаў сябе ў гэтай санаце, як сталы музыкант. Адточанасць штрыхоў, напоўненасць гучання, велізарныя дынамічныя дыяпазоны, ад ніжэйшага піянісіма да магутнага фарцісіма — вось з чаго складаецца майстэрства скрыпача.**

**Другая грань таленту Р. Нодэля праявілася пры выкананні музыкі кампазітараў XX стагод-**

З ПОШТЫ ЛіМа

# ПЕСНЯ Ў ДАРОЗЕ

Вядучы аб'яўляе:

— Выступае калектыў мастацкай самадзейнасці Саматэвіцкага сельскага клуба .

На сцэне прасніца, за кудзеляй сядзіць пажылая жанчына. Гэта самадзейная артыстка, тэхнічка саматэвіцкай школы Ганна Гаўрылаўна Кавалёва. Журботна льецца песня «Спіцца, дрэмлецца пад кудзеляю». Яна пераносіць гледачоў у мінулае. Цяпер кудзелю і днём з агнём не знойдзеш. Але Г. Кавалёва здолела песняй расказаць аб цяжкім лёсе жанчыны - сялянкі ў далёкія гады.

З Ганнай Гаўрылаўнай мы пагутарылі пасля яе выступлення. Гаваркая, жыццярадасная, яна, як кажуць, за словам у кішэню не лезе. У размове — дасціпная.

— Не магу без песні,— прызнаецца жанчына.— прывыкла, напэўна. Дзе мы толькі не выступалі! Вось выклікаюць у Магілёў. Але наша мара—паехаць са сваімі песнямі ў Маскву.

Такім жа жаданнем гараць і астатнія ўдзельнікі Саматэвіцкага сельскага клуба: тэхнічка школы Праскоўя Кавунова, работніцы дзіцячага сада Ірына Чыркова, Антаніна Шорнікава, загадчыца прадуктовага магазіна Лідзія Баханава, экспедытар пякарні Мікола Шорнікаў, сакратар сельскага Савета Лідзія Захарэнка.

Папулярнасцю ў гледачоў карыстаюцца таксама выступленні повара дзіцячага сада Зоі Рубанавай, настаў-

на вяжацца з інтэр'ерам. І ў зусім нядаўняй рабоце мастака — вялікай карціне «Маё Палессе», паказанай на занальнай выстаўцы ў Маскве, — буслы ў лёгкім палёце. Гэтая дэталь у кампазіцыі памагае адчуць сувязь паказаных тут людзей з неабсяжнымі прасторамі Палесся.

У палатне пануе пачуццё прасторы і спакою. Гэта роздум аб радзіме і людзях. Прыгажосць колераў — залацістай, жаўтаватазялёна-карычневай гамы — так пасуе настрою нетаропкай палескай восені. Удалечыні — рачныя берагі, шырокі прастор, птушкі... Ля краю палатна, бліжэй да нас, група людзей. Яны розныя, гэтыя людзі, але іх яднае агульнасць інтарэсаў, агульнасць душэўнага парывання, сімвалізаваная мастаком у вобразе прасторы і мудрага спакою роднай зямлі.

Аднак, мне здаецца, карціна прайграе з-за адсутнасці адзінага сэнсавага і кампазіцыйнага цэнтра.

ТОЕ, ШТО МАСТАК займаецца і манументальным, і станковым жывапісам, яўна на карысць яго таленту. Ён ставіць перад сабой усё больш складаныя задачы.

Да 900-годдзя Мінска Вашчанка напісаў «Старую Нямігу». Ён адлюстраваў яе з вышыні моста, нібыта разгарнуўшы перад гледачом, каб даць яму магчымасць усё ўбачыць, зразумець. Гэта і ўспамін аб крывавых бітвах на Нямізе ў старадаўнія часы, і аб жахлівым гета апошняй вайны, і роздум аб пераўтварэнні старога...

Пра чалавека мастак думае, працуючы над кожным творам. Пра чалавека — і яго нацюрморты. Тут прадметы і жывуць сваім жыццём, і праяўляюць той ці іншы характар, сваю індывідуальнасць, сутыкаючыся з чалавекам.

Вось «Цыкламен», поўны жыццёвых сіл, пругкі, святочны.

Вось «Хлябы» — нешматслоўнае палатно, але так многа ў ім сказана аб высокай годнасці сялянскай працы!..

А вось нацюрморт «Шыяны». Цёмны фон з невялікім светлым прарывам. На падлозе — плеценыя з лазы і саломкі збаны для зерня. Жыва перададзена непасрэднасць рэчаў, як адлюстраванне непасрэднасці тых, хто іх зрабіў, хто іхні гаспадар... Шыяны захоўваюць цеплыню рук чалавечых...

Трывожна ўсхваляваныя ў Вашчанкі «Белыя калы». Трапяткі, паўнакроўны малюнак. «Вашчанкаўская» лінія контура. Магутныя акорды выразных белых, чорных, жоўтых, зялёных тонаў успрымаюцца як глыбока драматычныя. І калі дазволіць сабе прадоўжыць музычныя аналогіі, можна сказаць: Вашчанка скарыстоўвае ў сваёй творчасці ўсю разнастайнасць гучанняў — ад сімфанічнай (так мне ўяўляюцца яго лепшыя манументальныя творы) да пяшчотнай лірычнай мелодыі (акварэль).

ЁН ВІРТУОЗ акварэльнай тэхнікі. У яго акварэлях — гарады, вёсачкі, лясныя сцяжынкі Палесся, сонечная Малдова, высакагорны Дагестан і іншыя мясціны, дзе пабываў мастак.

Гаўрыла Харытонавіч усхвалявана расказвае, як ён упершыню фізічна адчуў, наколькі вялізная наша краіна. Гэта было ўлетку 1966, калі ён з іншымі мастакамі падарожнічаў па Енісеі.

— Незабыўнае ўражанне пакінулі ленінскія мясціны. Шушанскае. Пасля мы праплылі да Дыксана, за 68 паралель. Усё хацелася замаляваць, запомніць. І Енісей, і тундру... Дарэчы, тундра пакінула вельмі незвычайнае ўражанне — уся зялёная і ўся засыпаная вялізнымі рамонкамі... А між імі — азёры надзвычайнай чысціні!.. Спакон веку мастакі выпраўляліся на поўдзень, каб прасвятліць палітру. Але такой чысціні колеру, як у тундры, я дагэтуль не бачыў... Неба на гарызонце — чысцейшы ультрамарын...

У выніку гэтай паездкі ў Вашчанкі з'явіліся паэтычныя акварэлі, прысвечаныя ленінскім мясцінам, напісаныя ў серабрыстых, перламутравых тонах. З'явіліся таксама велічныя «Красаярскія рытмы», дзе пластычнаму малюнку гор уторыць рытм пралётаў моста. Мастак з захапленнем замалёўвае першае жытло жыхароў Дзіўнагорска...

У акварэлях Вашчанкі — уласцівае мастаку майстэрства каларыста і кампазітара. Напрыклад, у лісце «9 мая», напісаным нядаўна, мастак перадае і значнасць падзей, і глыбіню пачуццяў. Празрыстасць колеру. Вяршыні дрэў нібыта злучаюцца ў вышыні, ствараючы настрой яснасці, свежасці вясны, неадольнасці жыцця, у імя якога аддалі жыццё ў змаганні героі, тыя, чыю памяць сёння свята шануюць нашчадкі... Сапраўды эпічны твор!..

ГАЎРЫЛА ХАРЫТОНАВІЧ Вашчанка — мастак, які ўмее назіраць жыццё, аналізаваць, абагульняць. Ён умее шмат, напружана, хоць, здаецца, і нетаропка працаваць.

**Эмілія АРАВА.**

# ТОЕ, ШТО НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА

(Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.)

З аднаго боку арыштаваных ішлі немцы, а з другога паліцэйскія. Арыштаваных вывелі на цэнтральную вуліцу і павярнулі ў бок Бабруйска.

На рагу вуліцы Манахава і Пралетарскай (цяпер вуліца Леніна) калона спынілася.

Паліцай Ермаліцкі забраў са строю мужчыну сярэдніх гадоў і яго дачку гадоў 18-19, падвёў іх да слупа і накінуў ім на шыі петлі. Потым пачалі вешаць бацьку з 17-18-гадоваю дачкою. Дзяўчына плакала, а бацька ёй сказаў: «Не плач, дачушка, людзі за нас адпомсцяць».

Расказвалі, што гэты чалавек быў з вёскі Вялікая Раеўка Капыльскага раёна. Працаваў ён на малаказаводзе.

На кожным слупе акупанты вешалі па два-чатыры чалавекі. Людзі, сцяўшы зубы, назіралі за чорнай «працай» здраднікаў. Немцы самі не вешалі. Яны даручылі рабіць гэта сваім памагатым паліцаям. Многія не маглі глядзець на гэтую жудасную карціну.

Калі павесілі 6 ці 8 чалавек, адзін з натоўпу арыштаваных кінуўся ўцякаць. Нямецкі аўтаматчык забіў яго ў раёне цяперашняга кінатэатра «Беларусь». Сумная працэсія рухалася ў бок млына «Усход». Паводле разлікаў акупантаў, каля гэтага млына яны павінны былі накінуць пятлю на шыю апошняй 68 сваёй ахвяры. Але здарылася непрадбачанае.

Калі накінулі пятлю на шыю 17-18-гадоваму юнаку Мікалаю, ён схапіўся вышэй сябе за вяроўку і, забраўшыся па вяроўцы ўверх, з пятлёю на шыі звярнуўся з прамовай да жыхароў горада. Мікалай сказаў: «Таварышы, смела глядзіце смерці ў вочы. Усіх нас не перавешаюць. Нас мільёны. Нашы вернуцца і ўсіх іх перавешаюць. Вы застаецеся народнымі мсціўцамі. Помсціце ворагам. Не давайце ім супакою ні днём, ні ноччу...»

Са скамянелымі тварамі жыхары горада слухалі прамову юнака. У натоўпе закрычала нейкая жанчына і ўпала, страціўшы прытомнасць. Фашысты разгубіліся. Нарэшце здраднік Марозаў, узабраўшыся па слупе ўверх, схапіў Мікалая за ногі. Пятля абарвала прамову героя.

Натоўп загуў і захваляваўся. Фашысты зразумелі, што павешанне выклікала не той эфект, на які яны разлічвалі.

Пасля прамовы Мікалая павешанне спынілі. Астатніх 38 чалавек паліцэйскія ноччу вывезлі ва ўрочышча Гараваху і ўсіх там расстралялі. Сярод расстраляных 38 патрыётаў была і мая знаёмая Вера Рачэўская. Паліцэйскі Іван Рублеўскі, які канваіраваў да месца расстрэлу гэтых 38 чалавек і які, магчыма, прымаў удзел у іх расстрэле, тады расказваў: «Тых, што ўчора недавешалі, на світанні мы вазілі ў Гараваху. Уразіла мяне Вера Рачэўская. Некаторыя, калі ім загадалі раздзявацца, крычалі, плакалі, кідаліся бегчы, а яна, зняўшы кофтачку і астатняе адзенне і кінуўшы яго ў кучу, сказала: «Такога жыцця, якое цяпер, не шкода, але хацелася б дажыць і паглядзець, чым усё гэта скончыцца. Нашы ж усё роўна прыйдуць»...

Хто ж быў Мікалай, які ў прамым сэнсе з пятлёю на шыі звярнуўся з патрыятычнай прамовай да случчан? Хто такая Вера Рачэўская?

Да гэтага часу асоба Мікалая не зусім высветлена. У момант пакарання смерцю, якую ён сустрэў як герой, Мікалай быў апрануты ў сінюю касаваротку і штаны на выпуск. На ім былі хромавыя боты...

Расказваюць, што Мікалай быў выхаванцам дзіцячага дома. Працаваў ён на электрастанцыі. Павесілі яго быццам бы за тое, што ён спусціў пад адхон вузкакалейны цягнік, на якім акупанты падвозілі паліва да электрастанцыі з торфазавода Радзічава. Ёсць і другая версія: Мікалай быў недзе з Чырвонаслабодскага раёна.

Больш падрабязных звестак пра жыццё і баявую дзейнасць Мікалая пакуль што няма.

Мала пакуль што ўдалося сабраць звестак і пра Веру Рачэўскую. Вядома толькі, што яна была звязана з Мікалаем Відзякіным, савецкім лётчыкам, які вёў падпольную работу ў Слуцку.

Сын Веры Рачэўскай пасля вайны скончыў Суворaўскае вучылішча. Пражывае ён недзе ў Мінску. Пошук працягваецца.

# АПОШНЯЙ НОТЫ...

дзя. Цікавыя каларыстычныя знаходкі, прадуманасць дэталяў і прыгажосць аддзелкі вызначалі выкананне гэтых твораў. Трэба падкрэсліць і цудоўнае пачуццё формы ў такіх творах, якія складаюцца з мноства рознахарактарных эпізодаў, як «Паэма» Э. Тырманд і Пятая саната для скрыпкі сола Э. Ізаі (дарэчы, якая даволі рэдка выконваецца). Музыкант нібы «лепіць форму» на вачах у слухачоў, аб'ядноўваючы эцюды, ствараючы стройнае цэлае. Найбольш поўна ўсе якасці, аб якіх гаварылася, праявіліся, бадай, пры выкананні «Іспанскай народнай сюіты» М. дэ Фальі.

У аснове гэтага твора ляжаць вакальныя мініяцюры, якія апрацаваў для скрыпкі вядомы польскі скрыпач П. Каханскі. Нодэль дакладна адчувае гэту вакальную першаснову, тонка ўлоўлівае і ўвасабляе з вялікім майстэрствам характар кожнай з мініяцюр: ціхую задумлівасць «Калыханкі», прасветленасць «Песні», страснасць і трагічнасць «Пола», непазбежнасць «Астурнаны», танцавальную апантанасць «Хоты». «Выпісваючы» кожную мініяцюру, скрыпач не забывае аб яе месцы і значэнні ў агульнай форме твора. Расквечаная свежымі і дакладнымі фарбамі «Сюіта» выконваецца на адзіным дыханні. Бадай, творы такога плана найбольш блізкія індывідуальнасці скрыпача.

Гаворачы аб канцэртах Рамана Нодэля, нельга не сказаць аб росце майстэрства яго партнёра — піяністкі Ніны Цёмкінай, дыпламанткі Усесаюзнага конкурсу. Цяпер выканаўцы складаюць ансамбль, якому пад сілу вырашаць самыя складаныя творчыя задачы, і аматары музыкі яшчэ будуць сведкамі іх новых дасягненняў.

**В. ЗЯЛЕНІН.**

ніка Уладзіміра Уртова, якія выконваюць песні савецкіх кампазітараў і народныя песні.

У кожнага з самадзейных артыстаў ёсць асноўная работа, багата і сямейных клопатаў. Але энтузіясты знаходзяць час і для выступлення на сцэне.

Дзе яны толькі ні пабывалі! Даюць канцэрты ў вёсках свайго саўгаса «Саматэвічы». Знаёмыя ім дарогі і да суседніх саўгасаў «Дуброва», «Печанеж». Асабліва моцная дружба з рускімі суседзямі — самадзейнымі артыстамі калгаса імя Чапаева Краснагорскага раёна. Выступалі там перад хлебаробамі вёскі Нядзведзі. А потым суседзі прыязджалі ў Саматэвічы з канцэртам.

Ярка свецяцца па вечарах вокны сельскага клуба. Гучаць тут музыка, песні. Ідзе чарговая рэпетыцыя. Рыхтуецца новая канцэртная праграма.

**Г. ЗАХАРЭНКА.**

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне паэту Міколу Аўрамчыку з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці маці.**

**Калектыў Рэспубліканскага тэатра юнага гледача глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці артыста аркестра Зіліта Кірылы Мацвеевіча і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.**

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# СЛОВА-ЗБРОЯ

Час усё больш аддаляе нас ад суровых дзён Вялікай Айчыннай вайны. У памяці згладжваюцца многія дэталі. І як добра, што знаходзяцца людзі, якія, паварушыўшы паліцы архіваў, пагутарыўшы з жывымі сведкамі таго часу, разгортваюць перад чытачом яшчэ адну старонку гераічнага летапісу. На гэты раз і зусім малавядомую.

Я маю на ўвазе кнігу Аляксандра Лебедзева «Бітва нябачнага фронту». Яна пра тое, як ішло ў гады вайны змаганне супраць фашысцкай ідэалогіі на нябачным фронце — у эфіры. Вераломна напаўшы на нашу краіну, акупіраваўшы часова Беларусь, частку Украіны, Малдавію, Прыбалтыку, Гітлер адразу ж паставіў задачу палітычна і маральна абяззброіць насельніцтва, якое трапіла пад акупацыю.

З раніцы да позняй ночы гітлераўская прапаганда запаланяла эфір мутным патокам хлусні, паклёпаў, дэзінфармацыі. На службе ў Гітлера апынулася пазаддзе беларускай нацыі, якое не мела за душой нічога святога і за нямецкую марку гатова было спраўна служыць ворагу, памагаць яму ў яго крывавых справах, скарыстоўваючы для гэтага роднае слова.

Вядома, што нашай партыі трэба было прымаць неадкладныя меры, каб у глыбокі тыл ворага, на беларускую зямлю, да сваіх братоў і сясцёр, што апынуліся ў вялікай бядзе, дайшло натхнёнае слова бальшавіцкай праўды. 1 студзеня 1942 года ў бітву супраць фашызму ўступіў беларускі атрад савецкіх радыёжурналістаў, і ў эфіры прагучалі пазыўныя радыёстанцыі «Савецкая Беларусь», звернутыя да беларускага народа, да шматпакутнай зямлі Беларусі. Рэдакцыю радыёстанцыі прытуліла Усесаюзнае радыё, прадаставіўшы беларускім журналістам памяшканні і тэхнічныя сродкі, а яшчэ сардэчную дружбу і творчую ўзаемадапамогу.

Кніга А. Лебедзева ўваскрашае даволі жывую карціну напружанай работы рэдакцыі беларускай радыёстанцыі, якая несла ў эфір праўду пра ўсенароднае змаганне з ворагам, што вялі савецкія ўзброеныя сілы і партызаны. Звесткі з фронту, з партызанскіх атрадаў, загады Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, шырокая інфармацыя аб працоўных справах савецкага тылу, выступленні кіраўнікоў партыі і ўрада Беларускай ССР, жывое слова пісьменнікаў, нацыянальная музыка складалі асноўны змест беларускага радыёвяшчання з Масквы.

Спачатку 4—5 разоў на суткі, а пасля, з восені 1943 года, і сем разоў, выходзіла радыёстанцыя «Савецкая Беларусь» у эфір. Даволі вялікі аб'ём рэдакцыйнай работы выконваў невялікі калектыў беларускіх пісьменнікаў і журналістаў — С. Майхровіч, В. Палескі, Ф. Руцкі, К. Губарэвіч, В. Бурносаў, М. Машара, А. Бярозкін, М. Рымар, А. Рокаш і інш. Сюды варта дадаць шырокі аўтарскі актыў. На радыё спяшаліся з публіцыстычным словам і вершам Я. Купала і Я. Колас, К. Крапіва і М. Лынькоў, П. Броўка і К. Чорны, П. Глебка і А. Куляшоў, М. Танк і П. Панчанка... Сюды прыходзілі мужныя сыны беларускага народа — воіны-франтавікі і партызаны, што выконвалі службу сувязі з Цэнтральным штабам партызанскага руху.

Аўтар кнігі прасачыў ідэйна-тэматычны абсяг перадач радыёстанцыі «Савецкая Беларусь», скіраваных як на шырокае асвятленне ваенных дзеянняў на франтах, барацьбы беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, так і на становішча ў акупіраванай Беларусі. Шкада, што вельмі скупа раскрыты ў кнізе жанравыя і выяўленчыя сродкі радыёвяшчання таго часу.

Спецыяльны раздзел кнігі адведзен паказу таго, як акупанты, выкарыстоўваючы Мінскую і Баранавіцкую радыёстанцыі, ваенныя рацыі, трансляцыйныя радыёвузлы ў гарадах, спрабавалі «расслабіць, зламаць волю савецкіх людзей у барацьбе за сваю свабоду і незалежнасць» і як з гэтага нічога не выйшла. Бо ў самыя глухія куткі Беларусі, побач з савецкімі газетамі і лістоўкамі, далятала сказанае пабеларуску слова бальшавіцкай праўды. Камуністычная партыя Беларусі звярталася да свайго народа праз сваіх нястомных прапагандыстаў, сярод якіх былі і беларускія пісьменнікі. Цікавыя тыя старонкі кнігі, дзе аўтар, абапіраючыся на архіўныя матэрыялы і ўспаміны былых супрацоўнікаў радыёстанцыі, раскрывае даволі падрабязна публіцыстычную дзейнасць выдатнага майстра слова Кузьмы Чорнага — аўтара палымяных палітычных памфлетаў.

Контрпрапаганда радыёстанцыі «Савецкая Беларусь» была скіравана на выкрыццё «новага парадку», які намагаўся ўсталяваць на Беларусі Гітлер. «Сярод паслугачоў акупантаў, — зазначае аўтар кнігі, — аказаліся старыя ворагі беларускага народа... Беларускія буржуазныя нацыяналісты, з'явіўшыся ў 1941 годзе ў Беларусі з новымі сваімі гаспадарамі — германскімі мілітарыстамі, спрабавалі зноў, як і многа год таму назад, аднавіць уклад капіталістаў і памешчыкаў». Савецкія радыёжурналісты вялі ў эфіры «няспыннае наступленне супраць варожай ідэалогіі», «рабілі ўсё для таго, каб кожная гадзіна радыёвяшчання, насычаная ўсёперамагаючымі марксісцка-ленінскімі ідэямі, павялічвала знішчальную сілу савецкай зброі».

Кніга «Бітва нябачнага фронту» належыць да першых спробаў стварыць хоць бы кароткі нарыс савецкага радыёвяшчання на Беларусі. Спроба не з лёгкіх, калі ўявіць тую акалічнасць, што аўтар мае тут справу з вусным словам, выпушчаным некалі ў эфір і не засведчаным падчас на паперы. Нашы архіўныя работнікі, мне здаецца, зрабілі непапраўную памылку, растасаваўшы архівы радыёстанцыі «Савецкая Беларусь» па агульных тэматычных раздзелах, а многае знішчыўшы, што на іх думку не мае гістарычнай каштоўнасці. Уявіць цяпер, як быў арганізаваны кожны вяшчальны дзень у дні вайны, проста немагчыма. Як немагчыма даследаваць жанравыя і выяўленчыя сродкі радыёжурналістыкі.

Між іншым, тое самае робіцца і цяпер. Архівы Беларускага тэлебачання і радыё захоўваюцца выбарачна. Кожны дзень вяшчання ў эфір — гэта ж летапіс жыцця рэспублікі, падчас вельмі цікава прадстаўлены. І варта было б стварыць спецыяльны архіў радыё і тэлебачання, дзе захоўваць **усе** мікрафонныя матэрыялы з прыкладаннем да іх магнітафонных запісаў.

Горкі вопыт негаспадарчага абыходжання з архівамі радыёстанцыі «Савецкая Беларусь» павінен навучыць нас больш ашчадна ставіцца да жывога летапісу народных спраў. Гісторыя толькі падзякуе нам.

Аўтар кнігі А. Лебедзеў здолеў сабраць багаты фактычны матэрыял, сістэматызаваць яго. Чаго нестае кнізе, дык гэта глыбіні навуковага асэнсавання асобных фактаў. Але гэта справа ўжо навукі. Журналіст сваю місію выканаў спраўна, данёсшы да чытача хвалюючыя старонкі напружанай бітвы нябачнага, ідэалагічнага фронту, якую вялі беларускія радыёжурналісты ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

А. Лебедзеў. «Бітва нябачнага фронту». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1972.

---

# ЧАС АЎТАРА, ЧАС ГЕРОЯ

„Серый не помнил, как очутился подле Суржикова: «Костя, Костя!». А когда поднял голову, лейтенанта в окопе не оказалось. Тяжело подтягивая негнущуюся ногу, открытый солнцу и вражьему глазу, Тюрин уползал навстречу танку, и было при нем две связки гранат и одна жизнь».

Унутраная сабранасць, дзелавая, стрыманая фраза і разам з тым высокая напружанасць рытму — такія характэрныя асаблівасці творчай манеры М. Кругавых у яго новай кнізе «Дарога ў мужнасць». У полі зроку аўтара — адзін ваенны год, цяжкі, пераломны год Вялікай Айчыннай вайны: лета 1942 — лета 1943. Дзеянне адбываецца ў адной з тылавых часцей, абмяжоўваецца маштабамі адной батарэі. Тут жывуць, рыхтуючыся да цяжкіх выпрабаванняў, героі кнігі. Апавяданне пачынаецца нетаропка, грунтоўна. Чытач знаёміцца з героямі, паступова ўваходзіць у іх унутраны свет, разбіраецца ў абставінах. Гэта яшчэ не бой, не змаганне, але ўжо барацьба, ужо дарога ў мужнасць. На цяжкіх ваенных дарогах, у выпрабаваннях жыццём і смерцю, героі, пераважна навабранцы, па-новаму пачынаюць асэнсоўваць сваё мінулае і ацэньваць сучаснае.

Своеасаблівая кампазіцыя твора: аўтар рэдка ўмешваецца ў падзеі, цалкам давяраючы самім удзельнікам падзей. Ніць апавядання лёгка і натуральна пераходзіць ад аднаго персанажа да другога, аднак расказ вядзецца не ад першай асобы, а з пункту гледжання то аднаго героя, то другога. Такім чынам, прынцыповае, структурнае значэнне набывае няўласнапростая мова, што дазваляе пісьменніку псіхалагічна дакладна і ёміста раскрыць характары. Кнізе ўласціва спавядальная інтанацыя. Але спавядальнасць, выражаная не ў лоб, ускосна, праз няўласна-простую мову, асабліва прыцягвае шчырасцю і непасрэднасцю.

Так мы спакваля знаёмімся з Сяргеем Краўцовым, з камандзірам чацвёртай гарматы Бандарэвічам, старшыной Мазурэнкам, Чуркіным, Жэнем, Варварай... Унутраны маналог перапыняецца ўспамінамі, успаміны — назіраннямі, назіранні — адносінамі да акаляючага, нярэдка выказанымі ў дыялогу. Варта адзначыць, што аўтар нават дыялогі (а яны ў кнізе займаюць шмат месца) рэдка перадае непасрэдна ад сябе, а часцей з пункту гледжання таго ці іншага героя. Ствараецца складаная, але чоткая кампазіцыя — у перакрыжаванні розных пунктаў погляду акрэсліваецца праўда кожнага характару, лёс кожнага персанажа:

Калі-нікалі ўнутраны маналог героя пераходзіць у маналог самога аўтара, і тады нараджаюцца дакладныя, амаль афарыстычныя фразы. Асабліва гэта характэрна для такіх герояў, як Бандарэвіч і Чуркін.

Аўтару аднолькава дарагія ўсе персанажы, але розная ступень іхняй маральнай і баявой сталасці, і таму выказаць свой ідэал ён давярае нямногім. У кнізе скрупулёзна і ярка паказан ваенны побыт, будні вайны. Аднак рэчавасць і зрокавасць быту не засланяюць сабой духоўнага свету людзей. Усе героі М. Кругавых — у якойсьці ступені філосафы. Ім уласціва разважаць аб вайне, паднімаючыся **над** ёю. І таму чытача не здзіўляе тая акалічнасць, што напярэдадні смяртэльнага бою малады сяржант Бандарэвіч думае аб формуле: «Кожнаму — сваё, а ўсім — агульнае». Ход думак Бандарэвіча натуральна прыводзіць яго да высновы, пад якой, безумоўна, падпісаўся б і сам аўтар: «...свое, оно-то — у каждого, только у одного — маленькое, у другого — побольше, у третьего — огромное. И лишь тот, чье *с в о е р а в н о в с е о б щ е м у* (разбіўка М. Кругавых), тот, душа кого открыта страданиям и болям всего народа, — только такой человек способен самоотверженно превратиться в смертоносный снаряд, как офицер Гастелло, принять в грудь сто смертей, как солдат Матросов».

Лёс Айчыны складваецца з лёсаў яе сыноў — такая асноўная думка пісьменніка, і гэтую думку адчуваем не толькі як выказанае слова, мы спазнаем яе ў кампазіцыйнай пабудове твора, непасрэдным эстэтычным пачуццём. І толькі тады, калі чытач падрыхтаваны ўжо да ўспрымання прамога слова, аўтар гаворыць ад сябе: «Есть что-то священное в миге перед боем, когда бойцы, заняв свои места, с которых теперь — ни на шаг, замирают вдруг...» Гэтае свяшчэннае пачуццё ўзварухнецца ў кожным, хто ўважліва прачытае «Дарогу ў мужнасць».

Неабходна адзначыць, што кніга М. Кругавых, названая пісьменнікам раманам, мае ўсе жанравыя якасці аповесці. Яна абмежавана пэўным месцам і часам дзеяння, колькасцю герояў і нешматлікасцю падзей. У ёй няма шматпланавасці і шматграннасці рамана. Калі ў папярэднім рамане пісьменніка «Гонар ярма не прымае» дзеянне разгортваецца шырока, захопліваючы жыццё заняволеных, але не пастаўленых на калені жыхароў адной вёскі, лагер ворагаў, паліцаяў, уцягваючы ў свой калаўрот розныя характары, то ў апошнім творы, дзе размова ідзе, па сутнасці, аб жыцці адной батарэі, наўрад ці можна ўлавіць прыкметы рамана. З недакладным жанравым вызначэннем, відаць, звязаны і некаторыя іншыя пралікі аўтара. На старонках кнігі нярэдка ўзнікаюць эпізадычныя персанажы, толькі названыя, але не раскрытыя, што перагружае тэкст, паслабляе нашу ўвагу. Складваецца ўражанне, што героі часова вырваліся з-пад улады нябачнай сілы аўтара, і пункт гледжання іх на акаляючы свет самавольны. Гэтых «дробязей» можна было б пазбегнуць, і тады час аўтара і час герояў, не супадаючы, перасякліся б у стройным кампазіцыйным адзінстве аповесці.

Зразумела, сказанае амаль не адносіцца да ўсіх без выключэння эпізадычных персанажаў. Так, натуральна, жывуць і дзейнічаюць у творы жанчына-мастачка і яе дачка. Іх паяўленне кароткае, але неабходнае. У гэтым эпізодзе адзін з галоўных герояў, Канстанцін Суржыкаў, прадстае перад намі ў новым і, магчыма, самым блізкім святле. Цікава, што мастак Г. Паплаўскі, які ілюстраваў кнігу, з усіх эпізадычных асоб выбраў менавіта гэтых. Прыемна адзначыць, што кніга ўвогуле афармлена з вялікім тактам і разуменнем сутнасці эстэтыкі пісьменніка. Ілюстрацыі не проста «следуют букве», яны адлюстроўваюць і ўнутраную метамарфозу герояў. Задуменнасць змяняецца трагічнасцю, самапаглыбленасць — дзейнасцю. У афармленні кнігі знайшла адлюстраванне змена рытмаў — рытм салдацкіх будняў змяняецца рытмамі бою. Ілюстрацыі Г. Паплаўскага, гэтак жа, як і тэкст рамана, амаль не маюць «незапоўненых» месц, у іх уся прастора густа насычана дэталямі, фігурамі, (нягледзячы на ўмоўнасць таго і другога), і ў іх, гэтак жа, як і ў аповесці, змест перадаецца не прамалінейна, а ўскосна — суадносінай фігуры і дэталі, размяшчэннем саміх фігур, позай, жэстам.

У рамане М. Кругавых няма галоўнага героя. Усе яго персанажы роўныя, і ім адмерана роўная колькасць часу. Гэта кніга таксама аб выхаванні пачуццяў, але не аднаго выбранніка, а тых многіх, непадобных і розных, надзеленых адным ваенным лёсам, імя якім — народ.

Твар аўтара ў аповесці непрыкметны, але ад гэтага не менш значны. Аддаючы шмат увагі кожнаму персанажу, не выдзяляючы і не прыніжаючы яго, аўтар строга ўважлівы да ўсіх герояў кнігі. Паказваючы гісторыю, пісьменнік імкнецца перш за ўсё паказаць чалавека ва ўсёй яго паўнаце і багацці, бо, як вядома, гісторыя пачынаецца з чалавека. У фінале М. Кругавых зноў вяртаецца да Сяргея Краўцова, з пункту гледжання якога чытач быў упершыню ўведзены ў мастацкі свет рамана. Сяргей, самы незадачлівы з байцоў батарэі, сам становіцца камандзірам зенітнай гарматы. З гарматнага разліку жывым ён застаўся адзін. І такі канец кнігі сімвалічны — дарога ў мужнасць бясконцая, эстафета падхоплена...

**Г. ЕГАРЭНКАВА.**

Мікалай Кругавых. «Дорога в мужество». Роман. Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1971.

# З ГЛЫБІНЬ НАРОДНЫХ
# АДГАДАЕМ ЗАГАДКІ, АДГАДАЕМ

*У ВУСНА - ПАЭТЫЧНАЙ творчасці беларускага народа ёсць нямала выдатных твораў, якія перажылі цэлыя эпохі, і заўсёды вызначаюцца сваёй мудрасцю, ідэйнай глыбінёй і высокім мастацтвам.*

*Вусная народная творчасць з самага пачатку свайго ўзнікнення адлюстроўвае жыццёвы вопыт працоўных, іх багатую фантазію, кемлівасць, дасціпны розум, а таксама ўсе ступені развіцця грамадства, геаічную барацьбу з прыгняталыгікамі, запаветныя мары і спадзяванні людзей.*

*Паяўленне і развіццё разнастайных жанраў вусна-паэтычнай творчасці, сярод якіх вылучыліся і адмыслова-хітрыя загадкі, з'явілася свайго роду вынікам абагульнення з'яў навакольнага свету.*

*І хоць загадкі — адзін з старажытных жанраў фальклору, але ў параўнанні з іншымі відамі вуснай паэзіі першыя публікацыі іх паявіліся даволі позна, у першай палавіне XIX ст.*

*Пачынаючы з другой палавіны XIX ст., загадкі ўсё больш прыцягваюць увагу збіральнікаў беларускага фальклору і ўсё часцей трапляюць на старонкі перыядычнага друку, а пасля — у фальклорныя і фальклорна-этнаграфічныя зборнікі.*

*Да найбольш ранніх публікацый адносяцца запісы загадак С. Мікуцкага і І. Юркевіча, а пасля — П. Гільтэбранта, І. Насовіча, П. Чубінскага і інш.*

*Самы багаты збор беларускіх народных загадак належыць выдатнаму этнографу і фалькларысту Е. Раманаву. Ім было надрукавана каля 800 загадак.*

*Народныя загадкі захапляюць і П. Шэйна, Н. Нікіфароўскага, М. Федароўскага і шмат іншых вядомых збіральнікаў беларускай вусна-паэтычнай творчасці.*

*У фальклорна-этнаграфічных зборніках дасавецкага часу загадкі звычайна падаваліся ў алфавітным парадку, па адгадках або зусім бессістэмна, акрамя зборніка Н. Нікіфароўскага, які ўпершыню зрабіў спробу класіфікаваць загадкі па тэматычных групах. Аднак класіфікацыя Н. Нікіфароўскага аказалася далёка недасканалай. Яна пазбаўлена і гістарычнай паслядоўнасці.*

*Яшчэ ў меншай ступені загадка даследавана. І да цяперашняга часу няма спецыяльных прац, прысвечаных беларускай загадцы.*

*Як бачым, у беларускай фалькларыстыцы мы не маем ні поўнага збору загадак, ні грунтоўных даследаванняў гэтага жанру.*

*Чарговы зборнік шматтомнага акадэмічнага выдання беларускага фальклору — том «Загадкі», складзены М. Грынблатам і мною, ужо знаходзіцца ў наборы. Такі поўны збор загадак у беларускай фалькларыстыцы выдаецца ўпершыню. У яго ўвайшлі ўсе лепшыя ўзоры загадак з фальклорна-этнаграфічных зборнікаў і перыядычнага друку дакастрычніцкага і савецкага часу, а таксама запісы супрацоўнікаў і дапісчыкаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Усяго ў зборніку змешчана каля 3500 запісаў. Тэксты загадак падаюцца ў дакладным запісе народнай лексікі з захаваннем важнейшых асаблівасцей мясцовых гаворак.*

*У томе прадстаўлены загадкі самыя разнастайныя па змесце і форме. У аснову класіфікацыі іх пакладзены гісторыка-тэматычны прынцып. Такая класіфікацыя, на наш погляд, з'яўляецца найбольш паслядоўнай і зручнай пры карыстанні зборнікам.*

*Па сваім ідэйна-тэматычным змесце ўсе загадкі ў томе падзяляюцца на шэсць асноўных раздзелаў, у кожным з якіх выдзяляецца шмат тэматычных груп.*

*Загадкі, таксама як прыказкі, прымаўкі, казкі, быліны, песні, стагоддзямі складаліся народам. Стагоддзямі яны вялі самастойнае жыццё. Іншасказальная, вобразная форма выражэння, асаблівая ўласцівасць загадкі развівацца і ўспрымаць усё новае выклікае да яе нязменную цікавасць і робіць загадку адным з любімых жанраў вуснай народнай творчасці.*

А. ГУРСКІ.

## ПРЫРОДА І ЧАЛАВЕК

**Сіняя дзяружка ўвесь свет пакрыла.**
*Неба.*

**Глянеш — заплачаш, а ўсе яму рады.**
*Сонца.*

**З высокай дарогі глядзіць бычок крутарогі.**
*Месяц.*

**Поле не змерана, быдла не злічана, пастух рагаты.**
*Неба, зоркі, месяц.*

**Усіх нас корміць, а сама есці не просіць.**
*Зямля.*

**Рыкнуў вол на сто гор, на сто печак, на сто рэчак, на сто розных гарадоў.**
*Гром.*

**Нахмурыцца, насупіцца, у слёзы ўдарыцца, нічога не застанецца.**
*Навальніца.*

**Шуміць, гудзіць цэлы век, а не чалавек.**
*Вецер.*

**Ішоў даўгавяз, у сырую зямлю ўвяз.**
*Дождж.*

**Рознакаляровае карамысла праз рэчку павісла.**
*Вясёлка.*

**Ляціць —маўчыць, ляжыць — маўчыць, а як памрэ, дык зараве.**
*Снег.*

**Гаспадар багаты, ды смуцён, гаспадыня бела, ды бедна.**
*Восень і зіма.*

**Раніцою ходзіць на чатырох, днём ходзіць на двух, а вечарам— на трох.**
*Чалавек у розным узросце.*

**Гаршчочак вумён, сем дырачак у ём.**
*Галава.*

**Адзін голасна чытае, двое ў кніжку паглядае, двое трэціх слухае, а чацверты —нюхае.**
*Рот, вочы, вушы і нос.*

## ГАСПАДАРКА І МАТЭРЫЯЛЬНЫ БЫТ

**Не мора, а хвалюецца.**
*Ніва.*

**Тысяча братоў адным поясам падпаясаны.**
*Сноп.*

**Драўляны нос у зямлю ўрос.**
*Саха.*

**Ішло хлопцаў дваццаць пяць, пасля зімы сляды знаць.**
*Барана.*

**Дзве сініцы ненасытны: што ні дадуць, то і з'ядуць.**
*Жорны.*

**Стаяць каровы ў хляве, а рогі на дварэ.**
*Кроквы.*

**Кабыла бела ўсе дровы паела.**
*Печ.*

**Матка таўстуха, дачка краснуха, а сын Хвядос пайшоў да нябёс.**
*Печ, агонь, дым.*

**На страсе сядзіць і люльку курыць.**
*Комін.*

**Поле шкляное, а межы дзеравяныя.**
*Акно.*

**Цыганка-паганка па золаце скача.**
*Качарга.*

**Ніхто не такоў, як Іванька Дуракоў, сеў на конь, паехаў у агонь.**
*Гаршчок.*

**Сам худ, а галава з пуд.**
*Бязмен.*

**У жываце — баня, у носе — рэшата, на галаве —пупок, адна рука і тая на спіне.**
*Чайнік.*

**Туды ідзе скачучы, а назад плачучы.**
*Вядро ў студні.*

**У лес ідзе — дамоў глядзіць, дамоў ідзе— у лес глядзіць.**
*Сякера за поясам.*

**Сама, як шчэпка, дзяцей, як молі.**
*Піла.*

**Чатыры чатыраначкі пабеглі на палянaчкі, ухвацілі вутачку, пасадзілі ў закутачку.**
*Воз, поле, снапы, гумно.*

## ГРАМАДСКІ І СЯМЕЙНЫ БЫТ

**Мядзведзь, не мядзведзь, а пчол абдзірае.**
*Пан, поп.*

**Трое жывуць, скуру дзяруць, голымі пускаюць.**
*Пан, поп, стараста.*

**Два браты, а адзін з іх мой дзядзька. Хто другі!**
*Бацька.*

**Ішоў чалавек дарогай, ажно ўдваіх сена грабуць.**
**— Калі брат з сястрою—успешна, калі муж з жаною —уцешна.**
**— Не брат з сястрою, не муж з жаною; мая матка яе матцы свякроўка была.**
*Бацька з дачкою.*

**Што за звярочак: па хаце ходзіць, ніхто яму не шкодзіць, усякі яго паважае, дарогу саступае.**
*Дзіця.*

**Увесь свет пітае, а на стале не бывае.**
*Грудзі маці.*

**Ёсць на свеце адно і для ўсіх яно нужно.**
*Імя.*

## КУЛЬТУРА

**Ноччу маўчыць, удзень гамоніць,— маці другая, дзяцей навучае.**
*Школа.*

**Не куст, а з лісточкамі, не рубашка, а сшыта, не чалавек, а расказвае.**
*Кніга.*

**Кінь аб камень, не разаб'ецца, кінь на воду — расплывецца.**
*Папера.*

**Без крылляў, а ляціць, без языка, а гаворыць.**
*Пісьмо.*

**Заўсёды я тонкая і худая, ды ў тым мая сіла, што п'ю я чарніла.**
*Прамакатка.*

**Ляжыць паленца, а ў сярэдзіне сэрца.**
*Аловак.*

**З выгляду — мячык на восі стаячай, а сіла такая — усю зямлю трымае.**
*Глобус.*

**Гадавы кусточак кожны дзень губляе лісточак, год пройдзе — увесь ліст адойдзе.**
*Каляндар.*

## ЗАГАДКІ-ЖАРТЫ, ЗАГАДКІ-ЗАДАЧЫ

**Што гарыць без полымя!**
*Сонца, зорка,*

**Чаго на свеце багацей няма!**
*Зямлі.*

**Што бяжыць без повада!**
*Вада.*

**Што без слёз плача!**
*Скрыпка.*

**Ад чаго гусь плавае!**
*Ад берагу.*

**Што пасярэдзіне Кіева стаіць!**
*Літара «Е».*

**Як і цапу, так і лапу, выбілі капу без сараку, без пятаку, без пятнаццаці снапоў. Колькі яны змалацілі!**
*Нічога.*

**Ляцела два статкі гусей. Першае статка гаворыць:**
**— Дайце нам адну гусь, тады ў нас будзе пароўну.**
**А другое статка гаворыць:**
**— Дайце вы нам адну гусь, тады у нас будзе ў два разы больш.**
**Колькі было гусей у адным і другім статку!**
*Пяць і сем.*

## ЗАГАДКІ САВЕЦКАГА ЧАСУ

**Што чалавеку самае дарагое!**
*Радзіма.*

**Хто ўвесь век жыве маладым!**
*Камсамол.*

**Не агонь, а чырвоным колерам гарыць; не птушка, а ў паднябессе ўзлятае; не ліхтар, а ўсім людзям шлях асвятляе.**
*Крамлёўская зорка.*

**Чырвоным колерам гарыць, над галовамі ўецца, заўсёды ўперадзе ідзе, як завецца!**
*Сцяг.*

**Языка хоць і не мае, на ўсіх мовах размаўляе. Хочаш — песню заспявае, хочаш — весела зайграе.**
*Радыё.*

**На страсе жораў сядзіць, у хаце на стале скрынка стаіць, у пакоі святло патушана, а ўвесь свет відаць.**
*Тэлевізар.*

**У грудзях агонь гарыць, у жываце вар кіпіць, дымам дыхціць, парам пыхціць, хуценька бяжыць.**
*Паравоз.*

**Не авадзень, а гудзе; не птушка, а ляціць; есці —не есць, а п'е ваду, што гарыць.**
*Самалёт.*

**Жалезны конь, у жываце агонь, есці не просіць, арэ, жне і косіць.**
*Трактар.*

**Што гэта за жняя ўвішная: толькі сярпом пасядзе — у прыполе зерне трымае.**
*Камбайн.*



«Вясёлыя балалайкі» — так называецца вакальна-інструментальны ансамбль Дома культуры чыгуначнікаў Магілёва. Часта выступае ён у сельскіх клубах, на станцыях Магілёўскага аддзялення дарогі. У рэпертуары артыстаў — беларускія і рускія народныя песні. Толькі за апошні год ансамбль даў 80 канцэртаў, якія паглядзела больш 15 тысяч гледачоў.
На здымках: удзельнікі ансамбля «Вясёлыя балалайкі» і іх кіраўнік Анатоль Афанасьевіч Мошчанка; салістка ансамбля студэнтка будаўнічага тэхнікума камсамолка Раіса Кушнярова.



Фота М. ЖАЛУДОВІЧА. (БЕЛТА).

# ЛІДЗІЦЭ

Марыя ПУЙМАНАВА

**30 год назад, 10 чэрвеня 1942 года, гітлераўцы знішчылі вёску Лідзіцэ ў Чэхаславакіі. Жыхары гэтай невялікай шахцёрскай вёскі каля Кладна былі абвінавачаны ў тым, што яны хавалі ўдзельнікаў замаху на гітлераўскага стаўленіка ў Чэхаславакіі Р. Гейдрыха. Пасляваенныя судовыя працэсы над кладзенскімі гестапаўцамі даказалі неабвержна, што ў гэтым абвінавачанні не было ні кроплі праўды. Нацысты імкнуліся запалохаць народ, зламаць яго супраціўленне фашыстам.**

**На досвітку 10 чэрвеня 1942 года вёску акружылі гестапаўцы. Усе мужчыны і юнакі былі расстраляны, жанчыны і дзеці вывезены ў канцлагеры. Нямногія з іх дажылі да канца вайны, да разгрому гітлераўскай Германіі. Вёска была сцёрта з твару зямлі.**

**Браты чэхі, прыязджаючы да нас, у Беларусь, называюць Хатынь беларускімі Лідзіцэ. Памяць пра тых, хто загінуў, жыве ў сэрцах людзей і ў радках вершаў, у помніках і кнігах...**

**Друкуем фрагмент рамана Марыі Пуйманавай «Жыццё супраць смерці», у якім расказваецца пра тыя жахлівыя часіны Лідзіц.**

Праз сон Блажэна пачула шалёны сабачы брэх пад акном. Брахаў Брок. Што робіцца з сабакам? Брэх не канчаўся, і Вацлаў устаў, не запальваючы святла, каб даведацца, што здарылася. Тут моцна застукалі ў дзверы. Да скавытання Брока далучыліся роспачлівыя крыкі, на ганку затупалі; нехта ботам ударыў у дзверы, нейкая рука нечакана запаліла святло, і пакой раптам запоўніўся салдатамі. Блажэна ўзняла галаву з падушкі, нічога не разумеючы; потым сярдзіта, з абурэннем нацягнула коўдру на галаву і адвярнулася да сцяны. Ёй здалося, што гэта быў толькі страшны сон. Абшуквалі ж іх ужо раней.

Салдацкія рукі сцягнулі з Блажэны коўдру. Яна перапалохалася і страшэнна збянтэжылася, апынуўшыся перад мужчынамі ў начной сарочцы ў кветачкі, саскочыла на падлогу, разгублена схапілася за абразок боскай маці, які яна з дзяцінства насіла на ланцужку на шыі, і накінула халат.

— Не хвалюйся, Вацлаў, — крыкнула яна мужу.

Малады вальцоўшчык, убачыўшы, як гэтыя нягоднікі абыходзяцца з жонкай, пачырванеў, на ілбе ў яго набухлі жылы, ён сціснуў кулакі і ўжо мерыўся кінуцца на салдата, які сцягнуў коўдру з яго Блажэнкі. Яна жахнулася, думала, што Вацлаў чаго-небудзь наробіць і яму ж будзе горш.

— Нічога, нічога, не хвалюйся! — зноў крыкнула яна мужу, стараючыся надаць голасу спакой, каб паказаць, што яна не баіцца, бо нічога благога не зрабіла. — Зараз усё высветліцца.

— Alles wird erklärt werden, — злавесна ўсміхнуўшыся, пераклаў салдатам чалавек з азызлым тварам, апрануты ў цывільнае. Ён расставіў ногі, насупіў бровы і сказаў маладажонам па-чэшску з агідным судэцкім акцэнтам:

— Вы, вядома, ведаеце, што здарылася, у чым вы вінаваты?

— А што мы зрабілі?

За гэтае пытанне салдат так уцяў яго прыкладам, што ў вальцоўшчыка пасыпаліся іскры з вачэй.

У Блажэны заныла сэрца ад страху за Вацлава, і яна засланіла твар рукамі.

— Потым даведаешся, — неяк дзіўна ўхмыльнуўся цывільны. — Збірайцеся і рыхтуйцеся да адказу. Даю вам дзесяць мінут. Пойдзеце на допыт у школьны будынак. Грошы, каштоўнасці вазьміце з сабой,— дадаў ён з пыхлівай абыякавасцю, — тады мы тут нічога не будзем шукаць. Дзе у вас ашчадныя кніжкі?

А салдат ужо шарыў у шуфлядах.

— Дзе схаваны прадукты?

У пакоі Блажэны не было нават сухой скарынкі — Блажэна гатавала ў маці. І ў душы яна пажадала грубіяну прыліпнуць сваім паганым мундзірам да буфета, толькі што пакрытага лакам.

Вымаючы паліто з шафы, якая стаяла ў прасценку паміж вокнамі, Блажэна заўважыла, што ў суседзяў насупраць гарыць святло і салдаты выкідваюць у расчыненае акно бялізну. «Рабуюць», — падумала яна менавіта гэтым словам, і страх пакаленняў, стары гістарычны страх чэхаў перад пагрозай з боку Брандэнбурга, ахапіў яе.

Іх усіх ужо выводзілі з дому: Вацлава і Блажэну, маладых закаханых, якія так нядаўна разам любаваліся зоркамі, шахцёра-бацьку і заклапочаную маці, сястрычку Вену, чатырнаццацігадовую дзяўчынку, у якой зубы стукалі ад страху, і рэўматычную бабульку, у якой адняліся ногі. Але яна павінна была ісці з усімі. Яе пасадзілі на стул і вынеслі з дому. Калі гэтая дзіўная працэсія пераступіла парог, Брок неяк нязвыкла завыў, захлібнуўся выццём і скочыў проста на твар аднаму з салдат. Пачуўся кароткі стрэл; жанчыны крыкнулі, лапы ў сабакі абмяклі, ён споўз набок, і яго зычны, сярдзіты бас перайшоў у жаласны, перарывісты віск, які паступова слабеў і нарэшце сціх.

— Брочак, — заплакала Венінка. — Мой залаты Брочак!

Перапалоханых людзей сагналі на плошчу. Напаўадзетыя, аглушаныя ўдарамі ў дзверы, накінуўшы на сябе што трапіла пад руку, людзі ішлі, нічога не разумеючы, і ўсё яшчэ нібыта не верылі, што гэта не здань, а жахлівая сапраўднасць. У шэрым святле досвітку яны ўсё ж пазнавалі адзін аднаго, суседка ціхком ківала суседцы. Дзеці голасна паведамлялі: «Мамачка, Францік таксама тут». Мужчыны панура маўчалі. Маладыя і старыя, дарослыя і дзеці, маці з немаўлятамі на руках, кульгавыя бабулькі і бяззубыя дзяды былі сабраны тут з усёй вёскі, разам са старастам і ксяндзом — немцы не забылі нікога, ў дамах не засталося ніводнай жывой душы. А тыя, хто працаваў на металургічным заводзе ў начную змену, пакуль яшчэ не вярнуліся.

— Жанчыны і дзеці — у школу! Мужчыны застануцца тут!

Гэта страшэнна спалохала Блажэну. «Як жа так? Мы пойдзем на допыт не разам? А Вацлаву ж сказалі...» Яна абхапіла яго за шыю абедзвюма рукамі:

— Без цябе не пайду.

Але салдат зноў прыгразіў прыкладам. Салдаты, нібыта ў іх раптам усяліліся д'яблы, кідаліся ў натоўп, адрывалі блізкіх адзін ад аднаго, разлучалі сем'і. Забрахалі сабакі, зараўлі каровы, перапалоханыя куры з дзікім кудахтаннем насіліся на дварах. Гэта было штосьці жахлівае! Зрэшты, усё хутка скончылася, і адны бездапаможныя жанчыны з дзецьмі засталіся сам-насам з салдатамі.

Каля школьных дзвярэй стаяў салдат з куфэркам. Калі жанчыны ўваходзілі, ён, не запісваючы, адбіраў у іх каштоўнасці.

Жанчыны не атрымалі на рукі нічога.

Каштоўнасці беднякоў! Сямейныя сувеніры і памяткі аб падарожжах, маляўнічая хроніка свят, калі жыццё пераліваецца ўсімі барвамі вяселляў і хрэсьбін. Чалавек не любіць раставацца нават з кронамі, бо яны зароблены цяжкай працай. Але, урэшце, усе манеты аднолькавыя, яны пабылі ў мностве абыякавых рук; прыйдзе час, калі гэтыя мізэрныя пратэктаратныя грошы не будуць нічога варты. Затое каштоўнасці! У кожнай ёсць свая індывідуальнасць, як у людзей... Вось гэтую чорную матку боскую чанстахоўскую некалі прывёз маленькай Блажэнцы бацька пасля з'езда шахцёраў у Польшчы. Маці павесіла дзяўчынцы на шыю медальёнчык на ланцужку, каб матка боская ратавала дачушку ад усякага зла. Цяпер эсэсавец сарваў з Блажэны ланцужок, які яшчэ захоўваў цеплыню цела, кінуў у куфэрак, потым зняў з пальца пярсцёнак. Нават і гэта ён адабраў у Блажэны! Было так цяжка раставацца з пярсцёнкам, падараваным Вацлавам. Такі навюткі, такі дарагі сэрцу, без адзінай плямкі, такі любімы. На ўнутраным баку пярсцёнка была дата: «7 чэрвеня 1942». Блажэна насіла пярсцёнак роўна два дні. Ён стукнуўся аб скарбы вясковых жанчын — дзяшовенькія сувеніры — і зазвінеў важкім золатам.

Ды што гаварыць пра жанчын — адабралі каштоўнасці і ў дзяцей. Вена Малек атрымаў ад хроснага ў дзень першага прычасця старадаўні сярэбраны гадзіннік-цыбуліну... Падавай яго сюды! Але і гэта яшчэ не ўсё. Ці паверыце—салдаты не саромеліся браць маленечкія завушніцы ў дзяўчынак, якія яшчэ не ўмелі хадзіць! Мацяркі самі адразу ж знімалі іх, каб паганая рука фашыста не дакраналася да дзіцяці, каб не разарвала, крый божа, вушка. Але рукі, агрубелыя ад работы, трэсліся і былі не надта ўвішныя, і маленькія дзеці раскрычаліся. Школа, дзе раней было гэтак ціха і хораша, цяпер скаланалася ад плачу. Што скажуць бацькі, пачуўшы дзіцячы плач? Дзе нашы мужчыны? Што з імі?

Божа, якая гэта была ноч! Хвалявалася нават жывёла — гагалі гусі, жаласна раўлі каровы...

Світае, хутка ранак... Пад вокнамі школы ходзяць вартавыя. Ці хутка? Прайшла цэлая вечнасць! Але калі-небудзь павінна ж высветліцца гэтае страшнае непаразуменне! Ужо светла, пачынаецца дзень. Дзеці маглі б застацца тут, у школе.

— Калі сёння будуць урокі...

— Вядома, не будзе. Вунь як у дзяцей вочы зліпаюцца...

— Паглядзіце на яго, заснуў, бедненькі...

— Ну і дзяцінства ў гэтых малых! У іх гады мы сваволілі.

— А я больш за ўсё рада таму, што мае зараз пры мне, што б там ні было, паверце. Пакінуць іх адных — ды я ад страху ўчарнею.

— Пастойце! Едуць!

Некалькі грузавікоў з брызентавым верхам і жоўтымі слюдзянымі акенцамі спыніліся перад школай.

— Aus! Aus! — зароў эсэсавец. — Los! Los! Марш!

Жанчын пагналі з школы ўніз па лесвіцы, і не паспела Блажэна апамятацца, як яе ўпіхнулі ў машыну. Допыту так і не было. Каля лесвіцы валяліся дзіцячыя калясачкі. Бабку ледзьве пасадзілі ў машыну — сама яна не магла ў яе залезці. У грузавік ускочылі эсэсаўцы, і ён крануўся пад адчайны сабачы брэх, які ляцеў услед, бы праклён.

Усчаўшы брэх, сабакі як маглі стараліся абараніць сваіх гаспадынь, якіх адвозілі немаведама куды. Салдаты пачалі бязлітасна страляць іх. Вена ўспаміпала Брока, яе худое дзіцячае цельца калацілася ад плачу, як у ліхаманцы. Блажэна з маці адарвалі брызент, каб убачыць, што робіцца на вуліцы, клікалі на дапамогу... Але каго яны маглі даклікацца? Мужчыны не чулі іх. Ці даведаюцца яны, што іх жонак і дзяцей адвозяць? Дзе, дзе вы? Адагнуўшы ражок брызенту, жанчыны заўважылі на плошчы дзве велізарныя бочкі... што ў іх можа быць? Дзеля чаго іх тут паставілі? Можа, салдаты збіраюцца пап'янстваваць, але на гэта нешта не падобна. Божачка, а навошта сюды выстаўлена мэбля? Ды гэта ж калясачка нашай Ружэны, вунь тая, беленькая, вядома, гэта яна. Азвалася Гронакава. Ёй здалося, што яна пазнала сваю новую швейную машыну «зінгер». А грузавік тым часам імчаўся па вёсцы ў бок Бушцеграда. Ва ўсіх дамах корпаліся салдаты і выкідвалі, як мяшкі з мякінай, пярыны і адзенне. Прыгожая, мілая, чысцюткая вёска стала непазнавальнай, ператварылася ў разбойніцкі стан. Ніводнага знаёмага твару. Нейкія дзецюкі ў гімнасцёрках і шлемах цягнулі з двара Горакаў у сад саламяныя маты... Блажэна раптам імкліва адкінула руку маці, якая прытрымлівала брызент, і з усяе сілы пачала адцягваць яго, спрабуючы высунуць галаву.

— Вацлаў! — закрычала Блажэна.

— Татачка! Нас адвозяць. Чуеце?

Жаночыя галасы далучыліся да яе — кожная стала клікаць свайго.

Так, яны стаялі там, на двары Горакаў, каля хлява, тварам да сцяны, пад аховай салдат з аўтаматамі. Але ніхто з мужчын не адгукнуўся, не азірнуўся — грузавік прамчаўся міма.

Вацлаў гэта быў ці не? Трэці з краю, высокі, стройны, з кучаравай галавой. Ён, ён! Але Блажэна не была ўпэўнена. Не паспела яна разгледзець гэтых дванаццаць — ці колькі іх там было — чалавек, як машына пранеслася міма. Вядома, калі б хто-небудзь з тых, што стаялі, паварухнуўся, то салдаты ўсадзілі б у яго кулю. Магчыма, Блажэна потым яшчэ доўга ламала б сабе галаву над гэтым. Цяпер яна ўжо сядзела на саломе ў памяшканні спортзалы кладзенскага таварыства «Сокал» і глядзела ў непрывычна высокае акно, па якім знадворку струменіў несуцешны дождж. Мутная пахлёбка, якую ўжо так даўно раздалі наглядчыцы, не спатоліла прагі і голаду ні ў дарослых, ні ў дзяцей. Добра яшчэ, што маці

КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ за рубяжом

# АНГЛІЙСКІ РАМАНТЫЧНЫ ЖЫВАПІС



КАНСТЭБЛЬ. Калёсы для сена.

«У прыродзе формы адрозніваюцца не абрысамі, а ігрой ценю і святла. Накідваючы эскіз, мастак адлюстроўвае думкі лініямі; наносячы ж на палатно плямы фарбаў, ён наводзіць на думку...»

Гэтыя смелыя для свайго часу словы былі сказаны не фавістам, не імпрэсіяністам, а англійскім жывапісцам Аляксандрам Казенсам, аўтарам трактату «Новы метад», выдадзенага ў... 1785 годзе. Казенс выкладае ў ім тэорыі, пазней распрацаваныя французскімі мастакамі Дэлакруа, Манэ, Руо. Англійская школа жывапісу, якая амаль не існавала да XVIII стагоддзя, адразу выходзіць на сусветную арэну, не толькі не прытрымліваючыся пры гэтым традыцыйных плыняў выяўленчага мастацтва, але далёка абганяючы ўсе іншыя школы. «Новы метад» праклаў шлях у будучае, шырока расчыніўшы дзверы фантастыцы і лірычнаму натхненню.

Перыяд 1760—1860 гг. у англійскім жывапісе характарызуецца тым, што на змену адміраючаму класічнаму мінуламу і яго апошняй успышцы — неакласіцызму прыходзіць новая плынь — рамантызм, усё значэнне якога было зразумета ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя.

У чым жа навізна рамантычнага напрамку ў англійскім жывапісе? Перш за ўсё, у пошуку новых выразных сродкаў. Мастакі больш не здавальняюцца арганічнай гамай фарбаў старых майстроў, тыповымі для іх «залацістымі» тонамі. Яны шукаюць раўнавагу шляхам новых спалучэнняў фарбаў і «матэрыі». Менавіта ў англійскім жывапісе гэтыя пошукі робяцца агульнай з'явай: радавыя мастакі і вялікія майстры ідуць па адным і тым жа шляху, садзейнічаючы росквіту рамантызму.

Несумненна, шырокае

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Іван БРЭЛКА

## ПРАЗ ЧУЖЫ РОЗУМ

ПРАЎДУ кажуць: чым жыць чужым розумам — лепш увогуле не мець галавы на плячах. «Чаму?» — спытаеце. Хто-хто, а я ў гэтым на сваім горкім вопыце пераканаўся. Так што цяпер, колькі жыць буду, нікога больш не паслухаюся. Нават самага лепшага сябра. Адкуль такі недавер, скажаце? Ды, бачыце, Пятро — сябра мой — і падвёў мяне... Дакладней, падвёў пад той дом, што ўзводзіла наша брыгада.

Але ўсё па парадку.

Быў якраз панядзелак. А што гэта за дзень, думаю, тлумачыць не трэба. Дык вось падыходжу да Пятра і гэтак ціхенька, каб, крый божа, хто не пачуў, шапчу яму на вуха: «Ведаеш, галава аж развальваецца. Давай скокнем у магазін».

— Які магазін, працаваць трэба, — гыркае ён.

— Ды недалёка ж, за тым домам,— паказваю на суседні будынак.

Ледзь угаварыў Пятра: так не хацелася яму ісці ў магазін. Відаць, адчуваў, што бокам вылезе мне гэта вылазка. І, скажу вам, як у ваду глядзеў.

Праз хвілін колькі мы былі ў магазіне. Пераступіў парог, і вочы мае адразу загарэліся: на паліцах бутэлькі — якія хочаш. Бачу, Пятро таксама не супраць узяць адну з іх. Але ж, самі памяркуйце, рабочы час, праца на рыштаваннях, вышыня. «Не, — кажа Пятро, — возьмем толькі ліманад».

Які там ліманад? Купілі мы па бутэльцы «чарніл».

Але вярнуліся на аб'ект, зноў праблема: чым адкаркаваць гэтыя бутэлькі?

— Вечна цябе вучы,— хмыкнуў Пятро. — Шаркні аб вугал і пі сабе на здароўе.

Вось я ўпёрся ў вугал і — шаркнуў... «Каб цябе па пятах так шаркалі!» — думаў пасля. А ў той момант, здаецца, не паспеў зачапіцца за вугал, як грымнуўся вобзем. Бутэлька выскачыла з рук — і плясь, разляцелася на асколачкі! А цагліна, за якую зачапіў коркам, так саданула мяне па назе, што і па сённяшні дзень кульгаю...

Мне — гора, бяда. А Пятро аж заходзіцца, за бакі схапіўся ад смеху. Самі разумееце, якая мяне злосць апанавала.

— Чаго рагочаш, абібок? — са злосцю крычу яму. — Каб табе рукі адсохлі. Твая ж гэта работа...

— Э, не, твая,— гэтак, ведаеце, спакойна адказвае ён.

А тут, адкуль ні вазьміся, і брыгадзір наш прытупаў.

— Твая, браце, твая гэта работа, — пацвярджае. — Ты ж сам клаў гэтую сцяну.

Што мне было казаць: сапраўды, сам рабіў, пасля зарплаты...

Я ўзяўся за кельму. Але думаў сабе так: цяпер, колькі жыць буду, ніякага дурня не паслухаю!




**«...Відаць, мае гумарыстычныя малюнкі яшчэ слабаватыя, — напісаў нам у рэдакцыю шахцёр з Салігорска Анатоль Смоліч. — Але я спадзяюся ў хуткім часе гэты недахоп пераадолець!»**

**Знаёмячы сёння нашых чытачоў з новым аўтарам «Вясёлай трасянкі», мы павінны сказаць, што, аддаючы даніну яго сціпласці, у той жа час падзяляем і яго ўпэўненасць у сабе. Тым больш, што пад ёй салідны падмурак, — пачуццё гумару, якога А. Смоліч яўна не пазбаўлены.**









Мал. Л. ВЯЗЧІКАВА.

Я. ІВАНОЎ

## ЗЕМЛЕТРАСЕННЕ

*РАСКАЗ ВІДАВОЧЦЫ*

Мы сядзелі ў скверы. У зялёнай альтанцы.

Спачатку звінелі шклянкі і бутэлькі... Помню, доўга звінелі, пакуль адна з іх не перакулілася і з яе не пацяклі апошнія кроплі... З таго, відаць, моманту ўсё і пачалося! Як мне падалося, нешта моцна грымнула, стол, за якім мы сядзелі, завагаўся, нахіліўся і абодва мае прыяцелі, бездапаможна хапаючыся рукамі за паветра, з'ехалі з лавак на зямлю... Але я—утрымаўся, бо інстынктыўна абхапіў дрэва. Вось тады і адчуў, як ходарам захадзіла пада мной зямля, як завіхурыла ў вачах. Вакол рабілася нешта страшэнна незвычайнае. Я зірнуў на тое месца, дзе яшчэ гадзіну назад віселі электрычныя ліхтары, але ў густым змроку бушавала толькі адно полымя. Яно гарэла так ярка і злавесна, а чырвоныя твары маіх прыяцеляў пазіралі ў неба з такой пакутлівасцю, што страшэнная здагадка заварушылася ва мне: я раптам прыгадаў апошні дзень Пампеі... З дзікім лямантам кінуўся са сквера на вуліцу: «Ратуйце-е-е!» І ўсё шалёна панеслася за мной і насустрач мне: будынкі, людзі, машыны... Імгненнае маланкавае святло і страшэнны ўдар былі апошнім, што я адчуў.

...Апрытомнеў у бальніцы. Нада мной стаяў доктар. Нягледзячы на вострыя боль ва ўсім целе, я сабраў сілы і ціхім шэптам спытаў:

— Усё... ужо скончылася?

— Бадай...

— А што ж гэта было?

— Моцная ступень ап'янення...

— І больш... нічога? — не паверыў я.

— Не, чаму ж... Вы ледзьве не загінулі пад машынай.

Г. ЮРЧАНКА

## АДНА НОЧ

*Віктар КАРАМАЗАЎ.*

Падаіўшы карову і працадзіўшы малако, ва ўладзе салодкай трапятлівасці выйшоў я няспешкі за калітку, увесь набраклы ядронай сілай.

Ціхая бралася ноч. Не шалёстаў вецер. Зямля дыхала чуйнай вечнасцю. Вялікасна-белы месяц думна цалаваў таямніча-цёплы змрок пад дзяружкай аблакоў. Неўпрыкмет закарцела цалавацца самому, бо душа знудзілася ў адзіноце. Ударыла ў галаву шалёная кроў. Таму ішоў збалелы ад прагнай надзеі.

І, нібы ўступаючы жаданню, праз цьмянасць хітнулася нейчая ломкая фігура — басаногая.

Гэта ішла Луцэя. Адгукнулася згоднай душой на вярэдлівасць маёй нескладухі. Яе прагныя вочы без уздыхання і наракання глядзелі праз мяне. Ва ўладзе духмянай надзеі шагнуў насустрач. Аж не паверыў:

— Ці гэта ты?

— Як бачыш.

Нібы даўно свая, скаланулася ў маіх руках ласкавая і даверлівая. Ціхмана-глыбока тулілася і цупка, бо разумела акраску маёй мужчынскай натуры.

Сустракаў да гэтага яе двойчы: на грукатлівым кацеры пераязджалі разам праз раку, ды на разгойсаным газіку лясніча падкінуў у раён. І хоць не ведаў, як жыла-кідалася, шчымлівае трызненне ёю тачылася незагойна. Абудзілася раптоўная даверлівасць да яе вабнай жаноцкасці.

Колькі часу мы слухалі спешліва-суладную таўкатнечу нашых сэрцаў. Прыхапкам жмакала яна ў руках хусцінку. Чулася, як аддана напінаецца яе мляўка-прагнае цела.

— Колькі ў цябе дзетак? — спытаў я ў палюбоўнай размове.

— Сямёра. Але дзеля цябе я гатова на ўсё, — без пярэдыху шапталі яе губы. — Да мужыка я болей не вярнуся. Бо з табой адчула ранак апоўначы.

Я хацеў сцяць свае пачуцці, але гэта было звыш майго пажаданку. У безуладдзе душы наплываў казытлівы розваг. Шапаткая летуценнасць азаралася ружовасцю зманлівай невядомасці пра будучую жытоўку. Немінучасць яе святам абнаўлення паланіла мяне ўсяго.

Час імглівіў незаўважна. На ўсходзе рана-расяная світань аберуч задзірала квола-крамяны падолак...

Рыгор ЯЎСЕЕЎ.

## ДЫЯЛОГ

**— Рыгорка, любы,**
**Як жывеш!**
**— Як-небудзь ды жыву.**
**— Чаму ж на працу**
**Не ідзеш!**
**— Ды муціць галаву.**
**— Ты прастудзіўся,**
**Дружа, мо!**
**— Зарплату атрымаў.**
**— То крочыў**
**Лепей бы дамоў.**
**— Капеечкі ж няма...**
**— А жонка дзе!**
**А дзеці як!**
**— Пакінуў іх даўно.**
**— Дык ты нягоднік,**
**Ты ж лайдак!**
**— А мне — усё адно...**

## Мімаходзь

*Розніца ў аўтарытэце: адзін да працы прыкладае поўную сілу, другі — пэўную.*

□

*Начальнік заўсёды абапіраўся на актыў. Асабліва пасля банкетаў.*

□

*Філатэліст аказаўся жулікам першай маркі.*

М. НОЖНІКАЎ.

*«Іх вадой не разальеш», — гаварылі пра сабутэльнікаў. Аднак у выцвярэзніку разлілі...*

□

*На адну дошку караля і пешку ставяць толькі ў шахматнай гульні.*

□

*Каб чытаць чужыя думкі, трэба мець свае.*

□

*«Плагіятар», — бурчаў вусень на гусенічны трактар.*

□

*«І што ты ўсё тыцкаеш нос у мае справы?» — папракала шклянка чайнік.*

Ул. РУДЗІНСКІ.

**По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 01284

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.